№ 47 (256) 19 лістапада 2001 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

## БЮДЖЭТ 2002 ГОДУ



**Рост фінансаваньня адукацыі, мэдыцыны, абароны, спорту, міліцыі за кошт зьніжэньня выдаткаў на сельскую гаспадарку, транспарт, камунальныя паслугі.**

Старонка 3.

ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63125

# Змоўк голас Горадні

**24 лістапада 1997 г. гаспадарчы суд спыніў выхад газэты "Свабода". 12 лістапада 2001 г. такі самы лёс напаткаў газэту "Пагоня". 4 гады таму гэта ўспрымалася як грознае папярэджаньне, як прыкмета набліжэньня "новага 1937-га". Рашэньне ж тыднёвай даўніны хоць і выклікалі шок, разглядаецца хутчэй як чарговая рана — не сьмяротная, мо й не апошняя. Няма таго пачуцьця безнадзейнасьці, якое выклікала 4 гады таму кожная забарона, кожны разгон.**

Грамадзтва ўжо ня тое. Для яго свабода — гэта натуральны стан. Высокія чыноўнікі Міністэрства друку і тыя адкрыта пратэстуюць супраць забароны. Ніхто не палохаецца. Яшчэ аднаго паранілі, аднак ён ачуняе.

Забарона падкрэсьліла значнасьць "Пагоні" ў найноўшай гісторыі Беларусі — насуперак непрыяцелям беларушчыны, якія даўно імкнуліся сьпісаць газэту з рахункаў, паставіць на ёй крыж як на "неканкурэнтаздольнай" проці расейскамоўнай *Биржи информации*. Забарона, як гэта ні банальна гучыць, уводзіць "Пагоню" ў Пантэон. "Пагоня", заснаваная ў 1992, забароненая ў 2001", — напішуць праз 50 гадоў у чарговым выданьні "Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі", калі Гаспадарчы суд не скасуе свайго рашэньня. Калі скасуе, там будзе стаяць: "У 2001 спрабавалі забараніць".

Забарона "Пагоні" паказвае і на месца ўсіх і ўсяго беларускамоўнага ў найноўшай гісторыі Беларусі. Якія ж мусілі быць сапраўдныя вынікі верасьнёўскіх выбараў у Горадні, калі так шпарка скінулі гарадзенскага мэра і спынілі выхад газэты, якая для ўсёй краіны была голасам Горадні!

Як і "Свабоду" перад закрыцьцём, "Пагоню" шмат крытыкавалі. Маўляў, стала "проста газэтай", "правінцыйным выданьнем". Аднак у гэтым была яе сіла. "Пагоню" чыталі. У яе дасылалі гурбы прыватных абвестак. Яе ведалі.

Мікола Маркевіч у гутарцы з карэспандэнтам "НН" 17 верасьня абяцаў, што "Пагоня" выжыве любой цаной: будзе выходзіць у Інтэрнэце, адродзіцца пад новай назвай. Усё гэта напэўна будзе зьвязана зь цяжкасьцямі: забарона прыпала на пярэдадзень падпіснае кампаніі.

Забараняюць беларускае. Газэты, кнігі, канцэрты, гурты, FM-станцыі. Адным — лібэралізацыя, другім — прысуд, цэнзура, выгнаньне. Як жа моцна трэба баяцца беларускага, каб забараняць тыднёвую газэту з 7-тысячным накладам! Гэтак лякаюцца толькі таго, у кім чуюць сваю сьмерць.

Камэнтар у працяг тэмы — на старонцы 7.



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

# ПАГОНЯ вернецца



**Партрэт зь сябрам, падобным да Ван Гога**

Новае апавяданьне Адама Глёбуса. Старонка 11.

## Судзьдзі зволненыя за перасьлед СМІ

**Урад Сэрбіі звольніў 21 судзьдзю за ўдзел у перасьледзе незалежных сродкаў масавай інфармацыі за былым прэзыдэнтам Югаславіі Слабаданам Мілошавічам.** Міністар юстыцыі Ўладан Батыч заявіў, што былыя судзьдзі "абслугоўвалі" вядомы Мілошавічаў закон аб інфармацыі. Яны прысуджалі газэтам і радыёстанцыям драконаўскія штрафы, каб спыніць іхную дзейнасьць. Урад Сэрбіі зьбіраецца пазбавіцца ад 86 судзьдзяў з прычыны іхняй "перадузятай і непрафэсійнай дзейнасьці" ў часе кіраваньня Мілошавіча. Апэляцыі першых 21 зволненых судзьдзяў, што яны нібыта толькі выконвалі літару закону, ужо адхіленыя.

**Паводле радыё "Свабода"**

# Першы сьнег

**У ноч з чацьвярга на пятніцу штармавы вецер цыклёну прынёс у Беларусь першы сьнег. У цэнтры і на ўсходзе краіны раніцай 16-га было зафіксавана сьнегавое покрыва 1—2 см, у Дрысе — 5 см, у Полацку — на чатыры цалі, а ў Езярышчы — аж 14 см! Праўда, пад нядзелю гэты першы сьнег амаль усюды растаў.**

**Восень была цёплая. Першы сьнег сёлета выпаў пазнавата: у сярэднім у Менску гэта здараецца 7 лістапада. Самы раньні сьнегапад быў зафіксаваны ў 1972 г. — 29 верасьня. А найпазьней прыйшоў сьнег у Менск у год пачатку беларускага адраджэньня — у 1905 г. ён выпаў толькі 16 лістапада. А ўстойлівае сьнежнае покрыва ўтвараецца ў цэнтры Беларусі каля 10 сьнежня.**

Сьцюжа. Вецер толькі дзіка гаспадарыць,
Пралятае, злосны, вуліцай насьпех,
То скубе пад небам, быццам гусі, хмары
І на зямлю сыпле белым пер'ем сьнег.

*Ларыса Геніюш*

Сьнег у Беларусі ня дзіва. Любы старэйшы беларус пацьвердзіць, што за часамі ягонага дзяцінства сьнегу было куды больш. Кажуць, што, маўляў, узімку не было нават як дзьверы з хаты расчыніць. І гэта ў пэўным сэнсе праўда. У Беларусі лічыцца нормаю, калі сьнег выпадае ад канца верасьня да траўня. Зірніце на сямейныя фатаздымкі 60-х, 70-х ці пачатку 80-х. На "кастрычніцкіх" і "першамайскіх" дэманстрацыях людзі ў футрах, цёплых шапках, рукавіцах. Пільней угледзьцеся — і ўбачыце там-сям сьнег. Лішне казаць, што ападкі ў выглядзе сьнегу могуць выпадаць пры тэмпэратурах ад 0 і ніжэй. Але пры хуткасьці ветру 2—5 мэтраў у сэкунду. Калі вецер меншы, сьнег можа растаць, не даляцеўшы да зямлі, калі большы — сьнег выпадзе дзе-небудзь у іншым месцы.

Геаграфічна сьнег разьмяркоўваецца па Беларусі вельмі неаднастайна. Сярэдняя колькасьць сьнежных дзён на паўднёвым захадзе складае ў сярэднім толькі 55, а на паўночным усходзе больш як 80. Абсалютны рэкорд належыць Наваградчыне. Як у сапраўдных гарах, тут выпадае пад 60 мм ападкаў у выглядзе сьнегу.

Цяперашні клімат моцна розьніцца ад таго, да якога прывыклі нашыя дзяды. Сьледам за бясьсьнежнымі тыднямі раптоўна могуць надысьці вялікія сьнегапады. Колькасьць сьнегу, што мусіць выпасьці, фактычна не зьмянілася. Зьмянілася ягонае разьмеркаваньне. Варта толькі згадаць, як пазалетась перад Новым годам па Менску папаўзьлі чуткі, нібы ад сьнегу праваліцца дах "Камароўкі"... Чуткі былі недалёкія ад праўды. У 2000-м сьнегапады ў Эўропе пабілі ўсе рэкорды. На пачатку лютага ў прыбалтыйскіх краінах былі парушаныя транспартныя камунікацыі, перарваная падача электрычнасьці й сувязь. Чаму так адбываецца?

Гэта найбольш відавочны эфэкт ад глябальнага пацяпленьня. 2000-м стаўся самым цёплым за апошнія 150 год! Тады ў якасьці асноўнай прычыны быў названы гэтак званы парніковы эфэкт.

Працяг на старонцы 10.

## Навіны за суботу і нядзелю

### Валютнага саюзу ня будзе

**Аб'яднаньне расейскай і беларускай валюты адбудзецца пазьней за 2005 г.** Так заявіў украінскай урадавай дэлегацыі кіраўнік Нацбанку Пятро Пракаповіч. Ён падкрэсьліў, што аб'яднаньне можа адбыцца толькі пры роўных умовах і поўным захаваньні незалежнасьці Беларусі, як таго патрабуюць прынцыпы Эўразьвязу. Г.зн. "на сьвятога ніколі".

### Дапамога вартаўнікам Курапатаў

**Адзін зь лідэраў БПС Алесь Гетман зьвярнуўся да шараговых менчукоў, грамадзкіх арганізацыяў і Чырвонага крыжа з просьбай дапамагчы вартаўнікам Курапатаў** цёплай вопраткай і абуткам. Моладзь застаецца ў Курапатах, пільнуючы, каб дарожнікі не кранулі пахаваньняў ахвяраў савецкае акупацыі.

### Навіцкі едзе ў Трыест

**Прэм'ер-міністар Беларусі Генадзь Навіцкі на чале ўрадавай дэлегацыі ляціць на саміт кіраўнікоў урадаў краінаў Цэнтральнаэўрапейскай ініцыятывы (ЦЭІ),** што адбудзецца ў італьянскім Трыесьце 22—23 лістапада. Разам зь ім едуць у Італію міністры эканомікі і замежных справаў.

**Б.Т.**

## Леаніды вярнуліся на Зямлю

**У ноч з 17 па 18 лістапада жыхары Аўстраліі, Цэнтральнай Азіі, а таксама ўсходняга ўзьбярэжжа ЗША пабачылі наймагутнейшы за апошнія 33 гады мэтэорны дождж.** Гэта леаніды, даўгія мэтэорчыкі, што вылятаюць з сузор'я Льва (паўночна-ўсходні сэктар) і лятуць цераз ладны кавалак неба. Такую зьяву можна назіраць кожныя два гады, аднак пік прыпадае раз на 33 гады. Калісьці Ўладзімер Караткевіч напісаў твор пад назвай "Леаніды ня вернуцца на Зямлю". Час быў брэжнеўскі, і ў назьве пабачылі крамолу. Прыйшлося перназваць у "Нельга забыць".

**LY і АН**

## Якой быць "Нашай Ніве" ў 2002-м?

27 лістапада, у аўторак, а 18.30 у Купалаўскай бібліятэцы (Харужай, 21) адбудзецца сустрэча галоўнага рэдактара "НН" Андрэя Дынька з чытачамі. Запрашаем усіх.

## З усёй краіны

### Юркова звольнілі

**Сход землеробаў калгасу "Дрыбінскі" вызваліў з пасады старшыні, відаць, апошняга на ўсю Рэспубліку старшыню калгасу — "бээнэфаўца" Мікалая Юркова.** М.Юркоў ніколі не хаваў сваёй грамадзянскай пазіцыі і рашуча падтрымаў апазыцыю на выбарах. Юркова ня проста звольнілі, а, як вядзецца, яшчэ й брудам аблілі пры рэшце. Горацкая раёнка "Ленінскі шлях" зьмясьціла вялікі артыкул "Палітычны злом Юркова", добра аздоблены выразамі кшалту "палітычная імпатэнцыя", "ідэалягічная інфантыльнасьць", "хамэлеон" і г.д.

**Віталь Дранік, Горкі**

### Фарфору ня будзе

**У пятніцу спыніўся менскі парцалянавы завод.** Сталічная газавая служба спыніла пастаўкі газу на прадпрыемства з прычыны ягонай вялікай энэргетычнай запазычанасьці гораду. Рабочыя наладзілі стыхійны мітынг і вінавацілі ва ўсіх бедах кіраўніцтва.

### Крывальцэвіча абвінавачваюць

**Археоляга, аўтара "НН" Міколу Крывальцэвіча вінавацяць у арганізацыі несанкцыянаванага сходу 30 кастрычніка, калі ўсталёўваліся крыжы расстраляным у Курапатах археолягам.** У пятніцу Крывальцэвіча выклікалі ў суд, адная з-за нядоказнасьці разгляд справы адклалі.

Мікола Крывальцэвіч не адмаўляецца ад сваёй "віны": "Я ўзяў на сябе ўсю адказнасьць, бо я сапраўды быў арганізатарам. Арганізаваў, вядома, бяз санкцыі ўладаў, таму што не лічу мэтазгодным санкцыянаваць установку крыжа на магілках. Сотні такіх мерапрыемстваў кожны дзень праходзяць на кожных магілках".

### Падарунак ёсьць хабарам

**Канстытуцыйны суд прызнаў,** што каштоўныя падарункі выкладчыкам вышэйшых і сярэдніх спэцыяльных навучальных установаў ад студэнтаў могуць разглядацца як хабар.

**Паводле радыё "Свабода"**

### Трэба старшыня

**Нягледзячы на аб'яўлены конкурс, ніхто не выказвае жаданьня ўзначаліць ААТ "Лелікова", што паўстала на руінах калгасу "Чырвоная зорка" (Кобрынскі раён).** Дзіва што — на сёньня доўг гаспадаркі складае 130 мільёнаў, а колькасьць худобы зьменшылася з 1800 да 400 галоў. Зьмяніць старшыню пастанавілі падчас сходу самі калгасьнікі.

### Івацэвічы безь сьвятла

**На цэлым шэрагу івацэвіцкіх прадпрыемстваў адлучаная электраэнэргія.** Абясточаныя кантора раённага быткамбінату, цэх па вырабе мэблі мясцовае калёніі, Івацэвіцкая пуха-пер'евая фабрыка.

За электрычнасьць зусім не разьлічваюцца калгасы-саўгасы, таму амаль ва ўсіх 26 гаспадарках раёну адлучаныя пілярамы і сталярныя цэхі, упоцемку сядзяць канторы гаспадарак і сельскіх саветаў. Усе агулам вінныя Івацэвіцкай РЭС больш за 2 мільярды рублёў.

**Аляксандар Горбач, Івацэвічы**

## Пацярпелыя

На мінулым тыдні працягваліся суды па "курапацкай справе". 13 лістапада суд Савецкага раёну даў маладафронтаўцу Хведару Жывалеўскаму 7, а Паўлу Севярынцу - 10 ночаў арышту. Сп.Парфянкову далі 20 "мінімалак" штрафу. 16 лістапада сябра БПС Алесь Цялегін (Гетман) быў аштрафаваны на 10, "зубровец" Юрась Фабішэўскі на 6, сябра КХП-БНФ Валер Буйвал на 30 мінімалак. Сябра БСДП Ірына Кашталян судом апраўданая. Па адміністрацыйных справах Андрэя Ягорава, Яўгена Афнагеля, Яраслава Сьцешыка, Рамана Казакевіча, Мікіты Сасіма, Уладзіслава Валадзько, Веранікі Купчаны, Міколы Ткачэнкі і Генадзя Дранковіча прысуды вынесуць на гэтым тыдні. 13 лістапада ў Віцебску за распаўсюд "Беларускіх ведамасьцяў" быў затрыманы сябра КХП-БНФ Уладзімер Плешчанка. У Шклове звольнілі дырэктара гарадзкой жыльлёва-камунальнай гаспадаркі Рыгора Костусева, які ачольваў мясцовую філію БНФ "Адраджэньне".

### Выбух у Горадні

**У адной з кватэраў на вуліцы Дзяржынскага ў Горадні адбыўся выбух, ад якога ў суседзкіх кватэрах павыляталі шыбы.** Эпіцэнтрам выбуху была кухня. Там пажарныя пабачылі парэшткі лядоўні й моцна пашкоджаную мэблю. Гаспадыня, што вярнулася дахаты, прыясьніла сытуацыю. Яна пакінула ў лядоўні балёнчык з лакам для валасоў. Той быў пашкоджаны і прапускаў газ. Пад уплывам нізкай тэмпэратуры і адбыўся выбух.

**Паводле www.pahonia.promedia.minsk.by**

### Вуглік у Красным

**На ўскраіне Краснага (Маладачаншчына) жыве сялянка Ядзьвіга Шорац.** На ейным гародзе ляжыць камень з папераджальным надпісам: "Не капаць, ачаг сібірскай язвы". У 1953 г. тут пахавалі хворую на сібірку карову. На Маладачаншчыне яшчэ ў дзьвюх вёсках (Гарадок і Вязавец) ёсьць могілкі жывёлаў, памерлых ад антраксу. Па тры такія вёскі знаходзіцца на Вялейшчыне, Астравеччыне, Мядзельшчыне, Валожыншчыне. Жыхары ня надта зважалі да апошняга часу на папераджальныя камяні.

**Паводле "Рэгіянальнай газэты"**

### Апанавалі гарадзкія

**Апошнім часам на дыскатэку ў вёску Ходасы (Амсьціслаўшчына) завітвае ад 80 да 100 маладзёнаў з блізкага да яе Крычава.** Гэткай колькасьці аматараў выпіць, а пасьля пабіцца з абарыгенамі мясцовы ўчастковы ня мог даць рады. Амсьціслаўскі райвыканкам нават забараніў там гандляваць алькагольнымі напоямі. Гэта ўзрадавала мясцовых "экспарцёраў" самагонкі, бо цяперака праблемаў са збытам "мутнай" няма. Адрываюць з рукамі.

**Андрэй Кузьмін, Крычаў**

### Вар'ят у прыбіральні

**Непрыемная падзея адбылася днямі ў смургонскай грамадзкай прыбіральні.** Малыя дзяўчынкі (9 і 11 год) не пасьпелі зайсьці ў памяшканьне, як пачулі нечыя крокі. Незнаёмы мужчына з нажом загадаў дзяўчынкам распранулася. Але тыя не разгубіліся і пачалі зь ім біцца. Старэйшая нават параніла сабе нажом руку. Малодшая ж кінулася на вуліцу па дапамогу. Маньяк, пачуўшы людзей, уцёк. Яго злавілі праз два дні. Гэта 30-гадовы грамадзянін, які тройчы безвынікова лячыўся ад шызафрэніі.

### Зачынілі выцьвярэзьнік

**У Смургонях з прычыны нерэнтабэльнасьці зачынілі выцьвярэзьнік.** Цяпер на Гарадзеншчыне з колішніх сямі засталося чатыры выцьвярэзьнікі: у Горадні, Слоніме, Лідзе, Ваўкавыску.

### Стыпэндыя імя Дубка

**У памяць былога губэрнатара вобласьці Аляксандра Дубка заснаваная іменная стыпэндыя для студэнтаў гарадзенскіх ВНУ і вучняў сярэдніх школ.** Па 12 мінімальных заробкаў (90 тысяч рублёў) атрымаюць 30 найлепшых навучэнцаў вобласьці. Сярод іх два вучні смургонскай гімназіі: Аляксей Ткачэнка (спэцыялізацыя астраномія) і Настасься Таўкун (беларуская мова і літаратура). Дзеці ня ведаюць, што будуць рабіць з шалёнымі па павятовых мерках грашыма.

**Тацяна Скарынкіна, "Новая газета Смаргоні"**




**З 16 лістапада распачаўся Рамадан, месяц посту ў мусульманаў. Гэта месяц духоўнага ачышчэньня. Лідэр беларускіх татараў Ібрагім Канапацкі заклікае ўсіх прававерных мусульманаў: "Гэты месяц — для таго, каб людзі рабілі богаўгодныя справы, выпраўлялі памылкі".**

## У Менску будуць гіпэрмаркеты

**Сталічныя ўлады прынялі рашэньне пра будаўніцтва ў горадзе гіпэрмаркетаў. Задача максымум – у кожным раёне адзін.** Пачнуць з раёнаў пл.Прытыцкага, Партызанскага пр., Уручча. Першыя 12 млн. інвэстыцый у пабудову гіпэрмаркетаў знайшло, паводле неафіцыйных зьвестак, кіраўніцтва справамі прэзыдэнта. Дзіва што: першыя гіпэрмаркеты ва ўсіх краінах прынесілі немалыя прыбыткі.

Гіпэрмаркет на Захадзе — гэта вялізная, часам на некалькі квадратных кілямэтраў велічыней, крама ў некалькі паверхаў, дзе можна купіць літаральна ўсё: ад бялізны і шкарпэтак да пральных машынаў, аўдыёсыстэмаў, кампутараў і нават аўтамабіляў. Тут прадаюцца ўсе магчымыя харчовыя вырабы. Гіпэрмаркеты дастаткова зручныя, яны дазваляюць эканоміць час, не разьяжджаючы па розных крамах у пошуках тавару.

**Эдвард Людовіч**

## Мовазнаўцаў зьліюць зь літаратуразнаўцамі

**З прыходам Міхаіла Мясьніковіча ў Акадэмію навук маюць паскорыцца працэсы зьменаў у яе структуры.** Паводле зьвестак з Акадэміі, найперш плянуецца зьліць акадэмічныя інстытуты літаратуры і мовазнаўства ў адзін. Навукоўцы такога праекту не падтрымліваюць. Са словаў намесьніка дырэктара Інстытуту літаратуры Сьцяпана Лаўшука: "У 40-я гады гэтыя інстытуты былі адной установай. І разьдзялілі іх пасьля на два абгрунтавана. Ад новага зьліцця ніхто ня выйграе ні ў эканамічным сэнсе, ані ў палітычным". У акадэмічных калідорах можна пачуць нараканьні, што Мясьніковіч ня так добра арыентуецца ў спэцыфіцы навуковых дасьледаваньняў і ня бачыць розьніцы паміж мовай і літаратурай.

**Крысьціна Пучынская**



## Ліст у рэдакцыю

## Студэнты на вакзале

**Некалькі начэй мусілі прабавіць студэнты I курсу лесагаспадарчага факультэту Тэхналягічнага ўнівэрсытэту на менскім чыгуначным вакзале, бо ня мелі нідзе прытулку.**

У жніўні студэнтаў папярэдзілі, каб не выпісваліся з дому. Верасень і кастрычнік яны правучыліся на ўнівэрсытэцкай базе пад Негарэлым. І вось раптоўна 3 лістапада заняткі сканчаюцца, усіх высяляюць і выпраўляюць у Менск. І тут высьвятляецца, што бяз выпіскі з дому і без прапіскі ў Менску ў інтэрнат катэгарычна не засяляюць. Гэта быў сапраўдны сюрпрыз, бо на носе ў некаторых вісеў экзамэн і дадому ў які-небудзь Петрыкаў ці Клічаў зь Лельчыцамі за дзень ня справішся...

Таму і давялося студэнтам туляцца па вакзалах. А былі ж між іх і дзяўчаты.

Абурае бесчалавечнае стаўленьне камэнданткі інтэрнату да студэнтаў: ну што б здарылася, каб яны пераначавалі ў інтэрнаце, месца ў якім было ў іхнай кішэні?

Горка і за маладых людзей, што ня ўмеюць абараняць сваю чалавечую годнасьць. Склалі б торбы й валізкі на ганку інтэрнату, паднялі б друк, радыё, скантакталіся б зь якімі-небудзь грамадзкімі арганізацыямі, пазванілі б рэктару ці міністру – хай і праз бацькоў, – расклалі б цяпельца дый бавілі б ноч. Дык не, пакорліва падаліся на вакзал ..

Брыдка й за прыгонную незаконную сыстэму прапіскі. Што яна дае, акрамя нязручнасьці і прыніжэньня? Няўжо студэнты-першакурсьнікі нейкія бэнладэны, што на іх трэба нашыйнік?

**Сваяк Ахвяры**

## Навіны гаспадарскія

### Новы парадак дэкляраваньня даходаў

**Па выніках 2001 г. усе тыя, хто меў некалькі крыніцаў даходу і агульны даход, большы за 1500 тыс. на год, мусяць, як і раней, падаваць выніковыя дэклярацыі ў падатковыя органы.** (Лічба 1500 можа ўзрасьці, калі ў сьнежні вырасьце мінімалка). А вось пачынаючы з 2002 г., тыя, хто мае некалькі крыніцаў даходу, могуць пры жаданьні перайсьці на іншую сыстэму выплаты падатку: можна будзе не рыхтаваць дэклярацый аб сукупным даходзе, а на працягу году выплачваць на кожным месцы працы падаходны падатак па падвышанай стаўцы — 20%.

**Цэны на жыльлёва-камунальныя паслугі ў наступным годзе павялічацца ў два разы і складуць** 40% ад сабекошту. У 2003 г. яны дасягнуць 60% ад сабекошту, а ў 2004 г. — 80%. Пакуль без уліку сьвятла, газу ды тэлефону плаціць за стандартную аднапакаёўку давядзіцца блізу 5 даляраў, за двухпакаёўку — 7,5, а за трохпакаёўку — 10.

**У Абчаку пад Менскам, дзе некалі рабілі мікрааўтобусы "Форд", сёлета распачнецца зборка легкавікоў "Шкода".** Мяркуецца, што каштаваць беларускія "Шкоды" будуць 6—7 тысячаў даляраў. Штогод плянуецца зьбіраць дзьве з паловай тысячы машынаў.

**Міністэрства юстыцыі не дазволіла Менгарвыканкаму абкласьці не менчукоў, што купляюць кватэры ў сталіцы, падаткам на добраўпарадкаваньне гораду.** Таксама Менгарвыканкаму не ўдалося зацьвердзіць падатак на нерухомасьць з уласьнікаў прыватызаваных кватэраў — супраць яго ўзьняліся дэпутаты "палаткі".

**У Менску зараз 14 тыс. вольных працоўных месцаў.** Найбольшы попыт горад мае ў кіроўцах, прадаўцах, працаўніках жыльлёва-камунальнай гаспадаркі. Беспрацоўных у Менску зарэгістравана 13,5 тыс.

**З 21 лістапада Польшча зачыніць памежны пераход "Бругі-Кузьніца".** Рух транспарту тут адновіцца толькі пры канцы наступнага году, калі палякі скончаць рэканструкцыю сваёй мытні.

**Ці ня кожная трэцяя пляшка піва, якую зараз спажываюць беларусы, — расейскай або ўкраінскай вытворчасьці.** Тым часам з 16 буйных бровараў Беларусі палова ня мае грошай, каб абнавіць зношанае на 80% абсталяваньне. Некалькі бровараў могуць збанкрутаваць ужо ў 2003 г., бо да таго часу Расея хоча павялічыць вытворчасьць уласнага піва ўдвая.

**Рада старшыняў калгасаў запатрабавала ад дзяржавы купляць у іх мяса і малако па большай цане, даць усім гаспадаркам крэдыты памерам ня меншым за 50% ад кошту ўраджаю наступнага году ды скасаваць 5% сельгаспадатку.** Адначасова Міністэрства сельскай гаспадаркі абвясьціла, што сьвініна і ялавічына ў крамах падаражэе на 50%, хаця па гэтым паказьніку мы і так ужо перагналі Польшчу і Літву.

**Беларускія рублі робіцца канвэрсоўнымі ў межах СНД.** На мінулым тыдні пасьля 3-гадовага перапынку аднавіліся купля й продаж беларускай валюты на Маскоўскай міжбанкаўскай валютнай біржы. Там з нашымі грашыма ўжо праведзеная першая апэрацыя.

**Сяржук Іваноўскі**

дзяржаўны бюджэт-2002

# Цана аздараўленьня

*Рост фінансаваньня адукацыі, мэдыцыны, абароны, спорту, міліцыі за кошт зьніжэньня выдаткаў на сельскую гаспадарку, транспарт, камунальныя паслугі*

Беларускія вытворцы чакалі ад ураду Навіцкага, што абвясьціў пераход да вольных эканамічных стасункаў, зьмяншэньня адлічэньняў у мэтавыя бюджэтныя фонды, зьніжак "чарнобыльскага" падатку ды мытаў. Але настае час першых расчараваньняў. Бюджэт-2002 адно дэкляруе часовую забарону на ўвядзеньне новых падаткаў і скарачэньне падатку на прыбытак з 30 да 24%. Паводле папярэдніх падлікаў, агульны падатковы прэс зьменшыцца ўсяго на 0,5—1%, што наўрад ці значна адабʼецца на становішчы з уласнымі сродкамі субʼектаў гаспадараньня. У такіх умовах можна меркаваць, што міграцыя беларускіх капіталаў за мяжу працягнецца, а замежных інвэстараў прыбавіць будзе складана.

Што да асноўных эканамічных паказьнікаў на наступны год, дык яны заплянаваныя такія. ВУП мае павялічыцца на 4—5%, цэны вырастуць на 20—27%, адносна даляра беларускі рубель патаньнее на 15—18%. Пры гэтым у бюджэты дзяржавы і рэгіёнаў разам плянуецца назьбіраць (у пераліку на даляры) каля 4 млрд. 200 млн. Выдаткі бюджэту маюць скласьці пад 4 млрд. 400 млн. Дэфіцыт кампэнсуюць пазыкі Нацбанку.

Даходы бюджэту будуць складацца са збораў падатку на даданую вартасьць (30,5%), падаткаў на даходы і прыбыткаў прадпрыемстваў (16,3%), падатку з грамадзянаў (12,5%), акцызных збораў (8,3%), міжнароднага гандлю (6,5%). Цікава таксама, што ад прыватызацыі дзяржмаёмасьці разьлічваюць атрымаць усяго каля 70 млн. даляраў, з чаго вынікаюць два варыянты: або акцыі МАЗу, "Нафтану", Мазырскага НПЗ, гарадзенскага "Хімвалакна" ды іншых даходных прадпрыемстваў будуць, як і зброю, прадаваць праз прэзыдэнцкі фонд або ня будуць прадаваць увогуле.

> - **Даходы ад прыватызацыі маюць унесьці менш за 2% у бюджэт наступнага году**
> - **На ранейшым узроўні застанецца фінансаваньне Адміністрацыі прэзыдэнта (2,7 млн. даляраў), кіраўніцтва справамі прэзыдэнта (25), нацыянальнага сходу (2), захаваюць асобнае дзяржаўнае фінансаваньне БДУ (12,5) і БПСМ (1,4 млн.)**
> - **Рэальнае фінансаваньне дзяржаўнай прэсы скароціцца на 28%.**

Адметным падаецца і расклад выдаткаў. Заплянаваны рост фінансаваньня адукацыі — 820 мільёнаў даляраў мае быць патрачана на гэтую сфэру налета — амаль удвая перавышае заплянаваны паказьнік інфляцыі. З улікам прыкладна 25%-ай інфляцыі гэта раўназначна росту фінансаваньня гэтай сфэры ў рэальным вымярэньні на 12,5%. Рост расходаў на нацыянальную абарону ў 1,5 разу перавысіць працэнт інфляцыі (на армію плянуецца выдаткаваць 130 млн. даляраў у пераліку). Вырасьце і бюджэт фізкультуры, спорту ды мэдыцыны (670 млн.), фінансаваньне органаў дзяржаўнага кіраваньня (120 млн.) ды органаў Міністэрства ўнутраных справаў (225 млн.). Зь іншага боку, інфляцыя недзе на 5% абгоніць рост датацыяў на сельскую гаспадарку (400 млн. даляраў). Скароціцца рэальнае фінансаваньне навукі (55 млн.), культуры, мастацтва й кінэматографу (57), жыльлёва-камунальнай гаспадаркі (310), транспарту (100), сфэры сацыяльнай абароны (225), міжнароднай дзейнасьці (56). Зусім кепская будучыня ў дзяржаўнай прэсы, рэальнае фінансаваньне якой скароціцца на 28%. На ранейшым узроўні застанецца фінансаваньне Адміністрацыі прэзыдэнта (2,7 млн. даляраў), кіраўніцтва справамі прэзыдэнта (25), нацыянальнага сходу (2), захаваюць асобнае дзяржаўнае фінансаваньне БДУ (12,5) і БПСМ (1,4 млн.). Зноў зусім мала дадуць на год Саюзам кампазытараў ды пісьменьнікаў — 13 і 32,5 тыс. даляраў адпаведна.

Самыя радыкальныя зьмены тычацца фінансаваньня сацыяльных праграмаў. У наступным годзе ўрад хоча плаціць дзіцячыя дапамогі толькі за кошт сацыяльнага страхаваньня — фактычна забраць тыя грошы ў пэнсіянэраў. Цалкам ліквідуюць "чарнобыльскія" выплаты ў зоне, дзе забруджаньне ніжэйшае за 5 кюры (цяпер яны складаюць блізу 700 рублёў у месяц і на падвышэньне іх бракуе сродкаў). Акрамя таго, у наступным годзе ў рэальным вымярэньні на 100% болей прыйдзецца плаціць за кватэры і на столькі ж — за транспарт. Гэты рост цэнаў часткова павінен кампэнсавацца падвышэньнем заробкаў, выдаткі на якія складуць пад 40% ад усяго бюджэту, або 1750 млн. даляраў. Калі сёлета ў невытворчай сфэры людзі зараблялі ў сярэднім 78 даляраў, то ў ліпені 2002 г. яны павінны атрымліваць у сярэднім 105, а ў сьнежні — 110 даляраў.

І яшчэ адна асаблівасьць бюджэту-2002 — большы рэгіянальны ўхіл. Райвыканкамы будуць самі зьбіраць адзіны сельгаспадатак і падатак на казыно, якія цяпер ідуць у рэспубліканскі бюджэт, і па-ранейшаму будуць вызначаць мясцовыя падаткі на продаж тавараў, паслугі гатэляў і кавярняў, нарыхтоўку грыбоў і г.д. Адначасова адбудзецца пераразьмеркаваньне сродкаў паміж абласьцямі. Асабліва выйграе ад таго Магілёўшчына, якой, прыкладам, маюць пакінуць усе 100% рэгіянальных збораў падатку на прыбытак субʼектаў гаспадараньня, 91% падатку на дададуную вартасьць. Менавіта гэтая вобласьць стане адзінай, якой у параўнаньні з 2001 г. дадуць больш грошай на ўтрыманьне інфраструктуры мясцовых саветаў. Няма сумненьняў, што да гэтага спрычынілася ўплывовае магілёўскае лобі ў Адміністрацыі прэзыдэнта. Але мае важкія аргумэнты і ўрад, які даводзіць, што гэткім чынам ён распачынае экспэрымэнт па падтрымцы эканамічна слабейшай вобласьці. Урэшце, падзел на рэгіёны-донары й рэгіёны-рэцыпіенты ёсьць амаль ва ўсіх краінах сьвету.

**Сяржук Іваноўскі**

# Маштабы двара і маштабы нацыі

**На мінулым тыдні ў *Белорусской деловой газете* зьявіўся артыкул "Работа над памылкамі" Д.Верашчагіна і С.Ложкіна, якія займалі кіруючыя пазыцыі ў рэспубліканскім штабе перадвыбарнай кампаніі Ўладзімера Ганчарыка. Аўтары артыкулу сьцьвярджаюць, што прэзыдэнцкія выбары магчыма было выйграць нават у тых умовах, якія былі, і спрабуюць прааналізаваць прычыны паразы.**

У артыкуле досыць слушныя заўвагі што да тэхнічнага боку кампаніі. Гэтак, асноўнай праблемай аўтары называюць слабое ўзаемадзеяньне розных структураў, што працавалі на адзінага кандыдата. Штаб не кантраляваў у дастатковай ступені дзеяньні іншых структураў, распрацаваны плян кампаніі не выконваўся, рэсурсы (якіх, на думку аўтараў, было досыць) выдаткоўваліся бескантрольна і часта марна. Вялікай хібай аўтары лічаць тое, што ў кампаніі пераважала контрагітацыя, якая да таго ж ішла ад імя адзінага кандыдата.

Аднак значная частка артыкулу прысьвечаная пытаньню, якое на тле сучаснай беларускай сытуацыі падаецца трохі наіўным: хто вінаваты?

Паводле аўтараў, вінаватая "апазыцыя", якая "...павісла на адзіным кандыдаце, як гіра на тапельцу". Бяру слова "апазыцыя" ў двукосьсе, бо "апазыцыя", як яе малююць С.Ложкін і Д.Верашчагін, анічым не адрозьніваецца ад тае віртуальнай "апазыцыі", вусьцішнымі малюнкамі якой БТ страшыць абывацеляў. Гэта "апазыцыя", якая "...за шмат гадоў не прапанавала ніякіх канструктыўных рашэньняў", "у вачах беларускай грамадзкасьці... выглядае занадта агрэсіўна" і да т.п. Удзел палітычнай апазыцыі ў фармаваньні ідэалёгіі кампаніі і прыняцьці тактычных рашэньняў аўтары называюць "асноўнай памылкай, якая і прывяла да паразы".

Не зьбіраюся бараніць гэтую "апазыцыю", бо бараніць яе, зрэшты, як і ганіць, — усё адно што змагацца з паветранымі млынамі. Гэтая "апазыцыя" — фантом абывацельскай сьвядомасьці, спароджаная працяглай дэманізацыяй усяго супраціўнага цяперашняй уладзе. Але трэба канстатаваць, што гэтая дэманізацыя сягнула далей, чым магло здавацца.

Робячы выснову аб тым, што выбары можна было выйграць, аўтары артыкулу менш ці больш выяўна выходзяць зь некалькіх прыпушчэньняў, праўдзівасьць якіх імі пад сумнеў не бярэцца:

— прыхільнікі "апазыцыі" гатовыя галасаваць супраць Лукашэнкі за кожнага іншага;

— прыхільнікі Лукашэнкі галасуюць толькі за Лукашэнку і супраць кожнага іншага;

— перадвыбарная кампанія адзінага кандыдата мусіла быць скіраваная на тое, каб перацягнуць на свой бок усіх, хто "ня вызначыўся".

Дапусьцім, што штабу кампаніі Ганчарыка ў выніку арганізацыйнага бязладзьдзя ці шматуладзьдзя не ўдалося ў жаданай ступені данесьці да выбаршчыкаў тое, чым штаб мерыўся звабіць іх да выбару свайго кандыдата. Дык чым жа меркавалася прыцягнуць выбаршчыкаў на свой бок?

Аўтары артыкулу кажуць, што выбаршчыкам ня трэба дэмакратыя, а важны собскі дабрабыт. Гэтаму не запярэчыш. А далей піянэры беларускага палітычнага *PR*-у пералічваюць тое, што "выклікае адмоўныя эмоцыі" ў гэтай часткі выбаршчыкаў: "слова "апазыцыя", тэма вяртаньня нацыянальнай сымболікі, беларуская мова (!!!)..." Тады як "найкарацейшы шлях да іх сэрцаў — падтрымка Масквы". Камэнтар, бадай, непатрэбны.

І які жа мусіў быць адзіны кандыдат, каб прабіць "шлях да іх сэрцаў"? З аднаго боку, адзіны кандыдат ня мусіў быць "апазыцыянэрам". Зь іншага боку, адзіны кандыдат мусіў быць "антыподам Лукашэнкі" (адрозу падумалася, ці не Сурвіллу маюць на ўвазе: жанчына, з валасамі й без вусоў, сталая, спакойная і г.д.), бо "працаваць сярод электарату Лукашэнкі бессэнсоўна".

Падсумоўваючы: кандыдат мусіў арыентавацца на няўцямную катэгорыю выбаршчыкаў і быць няўцямным. Што й атрымалася.

Схематызм, чорна-белае бачаньне, у якіх аўтары артыкулу прапакаюць палітычную апазыцыю, ім самім уласьцівыя ня ў меншай ступені. Адно што чорныя ды белыя палі адных і другіх не супадаюць.

Сяргей Ложкін браў удзел у арганізацыі шэрагу пасьпяховых перадвыбарных кампаніяў, у тым ліку ў перадвыбарнай кампаніі цяперашняга дэпутата ППНС Ю.Марозава. Свой станоўчы досьвед з той кампаніі (прыкладам, вялікае значэньне працы валанцёраў) ён пераносіць на прэзыдэнцкія выбары. Кажучы пра рознасьць маштабаў, аўтары артыкулу сьцьвярджаюць, што "выйсьце было адно — правесьці кампанію як сто парлямэнцкіх выбараў адначасна", то бок замяніць агітацыю праз масмэдыі з прычыны іхнай недаступнасьці працай валанцёраў. Але гэтую рознасьць маштабаў піянэры беларускага *PR*-у ўспрымаюць толькі ў колькасным вымярэньні. Хоць выбары прэзыдэнта — гэта *нацыянальныя* выбары.

Беларуская *нацыя*, на жаль, выбрала Лукашэнку — які б ён ні быў, ён адлюстроўвае сучасны стан ейнага разьвіцьця. У 1994 г. Лукашэнка ўзяў тое, што кепска ляжала. Чаму кепска ляжала — ужо іншае пытаньне. За сем гадоў сваёй улады ён стварыў і ўмацаваў простую і эфэктыўную нацыянальную канцэпцыю — канцэпцыю славутай "чаркі і скваркі". Сакрэт яго нага посьпеху — наяўнасьць у яго пэўнага хай прымітыўнага, хай непрыгожага, але цэльнага і рэалістычнага адчуваньня *нацыі*, альбо насельніцтва Беларусі калі хочаце.

Выбары-2001 прыцягнулі агульную ўвагу да такой новай для Беларусі зьявы, як палітычны *PR*. Выйграваць выбары сёньня немагчыма без сучасных тэхналёгіяў, бо гэтымі тэхналёгіямі валодае праціўнік. Аднак любыя тэхналёгіі ні на што ня здатныя ў маштабах краіны, у *нацыянальных* маштабах, калі за імі не стаіць пэўная канцэпцыя згаданага вышэй кшталту, пэўнае адчуваньне нацыі. Тутэйшыя *PR*-тэхнолягі мусяць гэта ўсьвядоміць — калі хочуць перамагаць і рабіць сабе карʼеру тут, а не разглядаюць Беларусь як пляцоўку для экспэрымэнтаў ці шкаленьня перад выступам на вялікай расейскай сцэне. Упэўненасьць Д.Верашчагіна і С.Ложкіна ў будучых посьпехах — "Здолеем улічыць яе (перадвыбарнай кампаніі) урокі — зможам перамагаць" — пакуль падаецца беспадстаўнай. Калі гэта ўсе вашыя ўрокі — ня зможаце.

У канцы артыкулу ягоныя аўтары бадзёра заклікаюць: "Толькі ня трэба падмяняць барацьбу за дэмакратыю барацьбой супраць Лукашэнкі" — ну зноў жа слушна, але ў гэтым канкрэтным выпадку карціць сказаць аўтарам "Ня веру!" Станіслаўскага. Электарат гэта і зрабіў.

"Работа над памылкамі" сп.Верашчагіна й Ложкіна сапраўды пралівае сьвятло на прычыны паразы — хоць і не зусім так, як задумвалася аўтарамі. Яна паказвае павярхоўнасьць тых, каму даверылі ўзначаліць выбарчую кампанію антылукашэнкаўскага стану.

**Алесь Пяткевіч**

## Навіны

### Сойм БНФ

**Пазаўчора адбыўся чарговы сойм БНФ "Адраджэньне".** На ім абмяркоўвалі падрыхтоўку да будучага зьезду БНФ, тактыку дзеяньняў на выпадак выбараў у "саюзны парлямэнт" і на муніцыпальных выбарах. Прынялі заяву па "Пагоні". Адбылася кароткая дыскусія паміж В.Вячоркам і В.Сіўчыкам.

### Лукашэнка адмяніў уласны дэкрэт

**Учора ўступіў у сілу указ прэзыдэнта Беларусі № 667 "Аб прызнаньні страты сілы некаторымі дэкрэтамі прэзыдэнта Беларусі".** Сярод іншых дэкрэт № 40 ад 23 лістапада 1999 г. "Аб некаторых захадах для кампэнсацыі стратаў, нанесеных дзяржаве". Гэты дэкрэт прадугледжваў канфіскаваньне маёмасьці фізычных і юрыдычных асобаў без адпаведнага рашэньня суду.

**Эдвард Людовіч**

# Бывай, Расея

**Новыя сацыялягічныя дасьледаваньні НІСЭПД засьведчылі, што колькасьць прыхільнікаў інтэграцыі з Расеяй сярод беларусаў працягвае скарачацца.**

За 7 апошніх месяцаў зацятых прыхільнікаў інтэграцыі, якія галасавалі б за абʼяднаньне Беларусі й Расеі ў адну дзяржаву, паменела амаль у 2,5 разу: у сакавіку гэткіх было 36,4% ад апытаных, у кастрычніку — 15,6%. А колькасьць праціўнікаў беларуска-расейскай інтэграцыі за гэты час павялічылася з 16% да 20,8%.

За саюз, але абавязкова суверэнных дзяржаваў, выказаліся 43,8%, за нэўтралітэт без уваходжаньня ў якія-кольвек палітычныя злучэньні выступаюць на сёньня 18,9% беларусаў. Яшчэ 18,1% жадаюць уступленьня нашай краіны ў Эўрапейскі Зьвяз.

Ідэя беларуска-расейскай інтэграцыі не выклікае захапленьня ў большасьці нашага насельніцтва. Відаць, таму гэтая тэма страціла першыя месцы як у СМІ, гэтак і ў публічных прамовах з уладных колаў. Лукашэнку зараз, мусіць, турбуе іншае: супраць адмены канстытуцыйнага абмежаваньня, якое не дазваляе быць прэзыдэнтам болей за два тэрміны запар, выступаюць 52,7% апытаных. Станоўча да скасаваньня ставіцца толькі 23,4%.

Беларусы паварочваюцца з Усходу на Захад. Пра гэта сьведчаць і адказы на пытаньне "Ці хацелі б вы пераехаць у іншую краіну на сталае месца жыхарства?". "Саюзная" Расея толькі на чацьвертым месцы сярод краінаў, куды хацелі б выправіцца нашыя суайчыньнікі. Туды ў пошуках лепшае долі гатовыя пераехаць 3,6% апытаных, тады як у Польшчу — 5,8%, у ЗША — 6,1%, а ў Нямеччыну аж 18,5%. А 52% рэспандэнтаў сказалі, што нікуды не зьбіраюцца выяжджаць. То ёсьць з кім будаваць Беларусь!

**Ігнат Чакацкі**

# Амэрыканцы дабіліся свайго

**Амэрыканцы даказалі сваю магутнасьць, прымусіўшы талібаў пакінуць Кабул. Задачы пабудовы асноваў сучаснай дзяржаўнасьці і грамадзянскай супольнасьці ў краіне, што стала прыстанішчам бэн Ладэна, даць рады цяжэй.**

Аўганістан, як многія іншыя дзяржавы "трэцяга сьвету", паўстаў на нічыйнай зямлі паміж Расейскай і Брытанскай імпэрыямі. Эмір Абдурахман у XIX ст. пры дапамозе войска й брытанскіх грошай стварыў там нейкае падабенства дзяржавы, крывёй і грашыма падпарадкоўваючы сабе асобныя групы й плямёны. Але цэнтралізацыя аўганскай дзяржавы заўжды сутыкалася зь нежаданьнем мясцовых плямёнаў і кланаў падпарадкоўвацца Кабулу.

Супольнасьці, якія мы завем аўганцамі, ужо колькі тысячагодзьдзяў жывуць у стане племяннойанархіі, "вайны ўсіх супраць усіх". Гэта сетка кланаў, плямёнаў, лякальных фэдэрацыяў і асобных народаў ды рэлігійных групаў. Толькі перад пагрозай уварваньня чужынцаў ці рэлігійнай вайны аўганцы кансалідуюцца. Калі ж пагрозы звонку няма, іхныя фэдэрацыі распадаюцца.

Аўганскія племянныя кіраўнікі, а таксама палявыя камандзіры са сваімі жаўнерамі, шпіталямі, школамі, падатковай сыстэмай зьяўляюцца там адзінай рэальнай уладай. Дзяржава заўжды была чымсьці чужым для горцаў. Кароль Загір Шаг, якога ўсё часьцей згадваюць зараз у якасьці будучага кіраўніка дзяржавы, акурат на гэтай любові да свабоды і спатыкнуўся, калі пры канцы 60-х паспрабаваў увесьці ў краіне парлямэнцкую манархію, а ў выніку давёў краіну да хаосу. Напрошваецца аналёгія з нашай Рэччу Паспалітай XVIII ст. і яе "залатой вольнасьцю", якая прывяла да зьнікненьня краіны з геаграфічнай мапы.


AP

У Аўганістане два дзесяцігодзьдзі войнаў канчаткова зьнішчылі дзяржаўныя структуры, чыя легітымнасьць і папулярнасьць сярод рэгіянальных уладароў заўжды была мізэрнай. Праблема міжнароднай супольнасьці зараз будзе заключацца ў тым, як стварыць у Аўганістане дзяржаўную структуру, што магла б функцыянаваць, напрыклад, у выглядзе ня надта жорстка цэнтралізаванай федэрацыі з аўтаномнымі правінцыямі.

Мяркуецца, што рэформа палітычнае арганізацыі Аўганістану мае пачацца з так званай Лоі Джыргі (рыхтык наш даўні Вальны Сойм), падчас якой племянныя кіраўнікі вырашаць лёс краіны ды форму дзяржаўнага ладу. Назіральнікі заўважаюць, што калі нікога ня крыўдзіць і дазволіць кожнаму чалавеку адпаведнага статусу браць удзел у Сходзе, то лічба дэпутатаў вырасьце да дзясяткаў тысяч.

Аўганцы адкідаюць наша разуменьне дзяржаўнасьці на карысьць племяннoй самадастатковасьці і свабоды. Менавіта гэтыя каштоўнасьці, роднасныя нашай "залатой вольнасьці", насельнікі Гіндукушу бароняць ад вякоў.

Адна з асноўных функцыяў дзяржавы — манаполія на ўжываньне гвалту. Іншымі словамі, дзяржава пакідае за сабой права забясьпечваць бясьпеку грамадзянаў і караць іх ды арганізоўвае для таго войска. Каштоўнасьці традыцыйнай аўганскай культуры цалкам процілеглыя — самаабарона, самасуд і незалежнае ад дзяржавы самавольства — як беларускае "шляхціц на гародзе роўны ваяводзе". Карэспандэнт *Guardian* піша з Аўганістану: "Аўганцы не скараюцца. Яны толькі пераходзяць на іншы бок". Кожны палявы камандзір і солтыс глухога кішлака мае на ўсялякі выпадак два сьцягі — белы штандар Талібану й трыкалёр Паўночнага хаўрусу.

Зрэшты, калі амэрыканцы здолеюць арыштаваць мулу Амара і бэн Ладэна, Аўганістан і ўсе ягоныя кішлакі могуць перастаць іх цікавіць.

**Сяргей Радштэйн**

## Баўгарыя
# Прэзыдэнтам стаў Пырванаў


REUTERS

**Баўгары выбралі прэзыдэнта. Сацыёлягі прагназавалі, што цяперашні прэзыдэнт Стаянаў пераможа ў першым туры, а ў выніку на першым месцы аказаўся старшыня Сацыялістычнай партыі Георгі Пырванаў, які на 1% апярэдзіў Пятра Стаянава.**

Прэзыдэнт у Баўгарыі — пасада прадстаўнічая, ён прызначае паслоў, зьяўляецца галоўнакамандуючым Узброеных сілаў і прадстаўляе краіну за мяжой. Сапраўдная ж улада — у прэм'ер-міністра, якога прызначае партыя-пераможца парлямэнцкіх выбараў.

Таму ня дзіва, што на парлямэнцкія выбары ў чэрвені прыйшло 67% выбаршчыкаў, а ў першым туры прэзыдэнцкіх выбараў узяло ўдзел менш за палову электарату.

Баўгары жывуць бедна. Таму ў чэрвені яны прагаласавалі, пратэстуючы супраць палітыкі правых, за рух Сімяона. Эканамічныя рэформы яшчэ не дасягнулі пастаўленых мэтаў — на мінулым тыдні *Heritage Foundation* і *Wall Street Journal* ацанілі Баўгарыю як "краіну зь пераважна несвабоднай эканомікай".

На зыход першага туру выбараў моцна паўплываў канфлікт паміж Стаянавым і іншым папулярным кандыдатам у прэзыдэнты Боневым, былым міністрам унутраных справаў. Бонеў абвінаваціў Стаянава ў сувязях з карупцыянэрамі, а Стаянаў у адказ абнародаваў дакумэнты спэцслужбаў пра сувязь Бонева з расейскім крымінальным сьветам.

Стаянава падтрымаў і прэм'ер-міністар Сімяон II. Ён зрабіў гэта па-царску, ня раючыся ні з аднапартыйцамі, ні з партнэрамі па кааліцыі, як рабілі ягоныя продкі-цары. Пырванава ж падтрымала турэцкая меншасьць.

Паводле папярэдніх зьвестак, у другім туры выбараў у Баўгарыі перамог кандыдат ад посткамуністаў Георгі Пырванаў.

**Язапат Змысла**

# Эганс Нэйманіс: "Беларусы зусім як латышы"



**Учора Латвія адзначыла Дзень незалежнасьці. 18 лістапада 1918 г. паўстала першая незалежная латвійская дзяржава. Да вольнага жыцьця Латвія, як і Беларусь, вярнулася ў 1991 г. З нагоды Дня незалежнасьці Часовы паверaны ў справах Латвійскае Рэспублікі ў Беларусі Эганс Нэйманіс даў інтэрвію карэспандэнту "НН". Першым нашым пытаньнем было: як традыцыя латвійскае дзяржаўнасьці 20–30-х уплывае на цяперашняе жыцьцё краіны?**

**Э.Н.:** Істотна ўплывае. Нашыя бацькі й дзяды жылі ў незалежнай Латвіі, якая ў 20–30-я разьвівалася паводле законаў рынкавае эканомікі й доўгі час, да ўсталяваньня дыктатуры прэзыдэнта Ульманіса, у дэмакратычным кірунку. Калі мы ў 1991 г. аднавілі незалежнасьць, мы мелі ня толькі абстрактныя ўяўленьні пра тое, як далей жыць. Мы мелі магчымасьць параўноўваць, як мы жылі ў міжваенны час, што мы хочам мець цяпер і што можам пераняць з часоў першае незалежнае Латвійскае Рэспублікі, а што трэба мяняць. У 1991 г. шмат якія законы даваеннае Латвіі былі адноўленыя. Найперш — гэта Канстытуцыя (*Satversme*), якую пазьней дапоўнілі некаторымі пунктамі. Таксама цалкам быў адноўлены зь нязначнымі зьменамі Закон пра грамадзянства.

**"НН": У Латвіі значны працэнт капіталу належыць г.зв. расейскамоўным неграмадзянам. Ці не ставарае гэта пагрозы эканамічнай незалежнасьці краіны?**

**Э.Н.:** Я мяркую, няма патрэбы перабольшваць значэньне таго, каму належыць капітал у нашай краіне. Папраўдзе, спасярод бізнэсоўцаў шмат расейцаў, але гэта не абавязкова неграмадзяне. З 600 тысяч латвійскіх расейцаў больш за 300 тысяч – грамадзяне. Самае галоўнае — ці працуюць яны на карысьць Латвіі.

**"НН": 14 лістапада Эўрапейскі суд правоў чалавека пачаў разглядаць справу Тацяны Сьлівенкі, якую дэпартавалі з Латвіі як жонку былога вайскоўца Савецкае Арміі. Кабета пратэстуе супраць свае дэпартацыі, а расейскія назіральнікі кажуць, што калі эўрапейскі суд здаволіць ейны пазоў, то гэткія ж пазовы скіруюць тысячы пакрыўджаных латвійскаю ўладай сваякоў былых савецкіх вайскоўцаў. Як бы Вы пракамэнтавалі гэтую сытуацыю?**

**Э.Н.:** Я не хацеў бы гэтага камэнтаваць. Латвія й Расея ў 1994 г. падпісалі дамову пра вывад расейскіх войскаў з Латвіі. Гэтых людзей выслалі з Латвіі не таму, што яны некаму не спадабаліся, не таму, што яны расейцы, а таму, што дамова між Расеяй і Латвіяй з 1994 г. прадугледжвала, што з Латвіі павінны былі выехаць усе расейскія вайскоўцы разам зь сем'ямі.

**"НН": Беларусь мяжуе з Латгаліяй. Латгалы складаюць значную частку насельніцтва Латвіі. Латвійскі ўрад уважае латгалаў за этнаграфічную групу. Чаму б не надаць ім нацыянальна-культурную аўтаномію?**

**Э.Н.:** За апошнія 10 год я ніводнага разу ня чуў пра жаданьне латгалаў мець нацыянальна-культурную аўтаномію. Латгальскі дыялект даволі істотна розьніцца ад латыскае літаратурнае мовы, але, апрача гэтага, я не адчуваю значных адрозьненьняў. Так, у Латгаліі моцнае каталіцтва, у рэшце краіны – пратэстанцтва, але я не заўважаў, каб латгалы ідэнтыфікоўвалі сваю тэрыторыю як асобную частку Латвіі або хацелі стварыць нешта накшталт Латгальскае аўтаномнае акругі.

**"НН": Як сп.Нэйманіс пачуваецца ў Беларусі? Ці зьмянілася ў яго стаўленьне да нашае краіны?**

**Э.Н.:** Якім дзіўным гэта ні здавалася б, але я бачу вялікае падабенства між Латвіяй і Беларусяй. Ёсьць шмат супольнага ў нашых арнамэнтах, нашых песьнях (менавіта ў іх настраёвасьці). Гэткую выснову я зрабіў, грунтуючыся на этнапсыхалягічных адметнасьцях беларусаў і латышоў. (З адукацыі Э.Нэйманіс псыхоляг. — **В.М.**) Я ў Менску крыху менш за два гады й за гэты час высьветліў для сябе, што папраўдзе мы вельмі падобныя народы. І той стэрэатып, што беларусы й расейцы — адзін народ, не адпавядае рэчаіснасьці. Я пачуваюся ў Беларусі вельмі добра, хаця й размаўляю тут не на сваёй, а на чужой мове. Я не адчуваю, што зьехаў з Латвіі кудысьці далёка. Я магу сказаць, што зайшоў у госьці да суседзяў: тут нешта адбываецца па-іншаму, але па сутнасьці тут усё такое ж, як дома.

**Гутарыў Віктар Мухін**

# Нігерыйская красуня — Міс сьвету

**"Прыгажуняй сьвету" (www.missworld.org) сёлета стала 18-гадовая нігерыйка Агбані Дарэга.** Да гэтага часу яна паўдзельнічала ў добрым дзясятку іншых конкурсаў, але ўсё не шанцавала. Другое месца заняла дзяўчына з вострава Аруба, а трэцяе — шатляндка. Усяго ў заключным этапе конкурсу ўдзельнічалі 93 дзяўчыны. Беларусак сярод іх не было.


AP

## Навіны за тыдзень

# Жукаўца выдадуць Беларусі

**Акруговы суд у Беластоку пастанавіў, што "бракуе падставаў, каб сьцьвярджаць, што ў Беларусі Андрэя Жукаўца ня будуць судзіць у адпаведнасьці зь беларускім заканадаўствам".** Гэта робіць экстрадыцыю Жукаўца цалкам магчымай. Сам беларускі бізнэсовец з выракам суду нязгодны і лічыць, што беластоцкі суд знаходзіцца "пад уплывам дыпляматычных органаў Беларусі альбо беларускіх спэцслужбаў і хоча прадэманстраваць ляяльнасьць да беларускага рэжыму".

Андрэй Жукавец уцёк у Польшчу два гады таму, пасьля таго як беларускія праваахоўныя органы абвінавацілі яго ў махлярстве з крэдытамі. Сам Жукавец кажа, што гэткім чынам рэжым хоча пакараць яго за тое, што ён даваў грошы апазыцыі. Цяпер Жукавец мае тыдзень, каб скласьці апэляцыю. Інакш — арышт і экстрадыцыя.

**Аляксей Дзікавіцкі, Варшава**

# Зьезд у Беластоку

**Учора ў Беластоку адбыўся 14-ы зьезд Беларускага грамадзка-культурнага таварыства (БГКТ).** БГКТ спэцыялізуецца на правядзеньні культурных імпрэзаў і фэстываляў. Узначальвае таварыства Ян Сычэўскі, які прайграў на мінулых выбарах у Сэнат.

# Украінцаў стала менш

**Ад пачатку гэтага году насельніцтва Ўкраіны зьменшылася на 300 тысячаў і зараз складае крыху больш за 48 млн чалавек.** Апрача натуральнай сьмяротнасьці, насельніцтва памяншаецца і за кошт выезду за мяжу на заробкі. У 1991 г. ва Ўкраіне жыло 52 млн чалавек.

# Кіеў умацоўвае межы

**Кіеў просіць у Эўразьвязу грошай на закупку абсталяваньня** для аховы межаў зь Беларусяй і Расеяй.

# Чэхі найбольш шануюць лекараў

**Чэхаў апыталі, якія прафэсіі яны шануюць больш за ўсё.** На першым месцы апынуліся лекары. За імі — выкладчыкі ВНУ, трэцяе месца падзялілі школьны настаўнік і судзьдзя. Найменш шанаваныя прафэсіі зьвязаныя з палітыкай. Самая непрэстыжная — народны дэпутат, чыю работу чэхі, па выніках апытаньня, ацанілі толькі на адзін бал вышэй за працу прыбіральшчыцы. На чэскага прэзыдэнта гэтая нелюбоў да палітыкаў не распаўсюджваецца — як і 12 гадоў таму, Вацлаву Гаўлу вераць больш за 70% грамадзянаў краіны.

# Расейцы ня хочуць вайны ў Чачэніі

**Згодна з апытаньнямі, сёньня за пачатак перамоваў з чачэнскімі незалежнікамі выказваецца палова расейцаў.** Два гады вайны значна зьменшылі іхную ваяўнічасьць – у 1999 г. у разгром чачэнцаў верылі 44%, сёньня – 23%. На пачатку вайны за ўтрыманьне Ічкерыі ў складзе Расейскай Фэдэрацыі любымі спосабамі выступалі 30%, цяпер – 25%. Толькі чатыры чалавекі зь дзесяці шкадуюць пра магчымы выхад Чачэніі з Расеі.

# Падрабляюць аднадаляравыя купюры

**У Кангрэс ЗША паступілі дакумэнты, якія сьведчаць пра тое, што зараз у сьвеце найбольш падрабляюць аднадаляравыя купюры.** Амэрыканцы надзейна абаранілі банкнотаў 5—100 даляраў, зусім забыўшыся на драбязу. Кангрэс ня надта бядуе: вялікай шкоды эканоміцы ЗША гэта ня зробіць. Пацерпяць адно жыхары бедных краінаў, дзе прадукуюцца фальшывыя грошы. Найбольш дасканалыя падробкі друкуюцца ў Індыі, Судане, Украіне і Польшчы.

**Сяргей Рак**

# Заробкі ў Польшчы



**_Polityka_ паведаміла, што сярэдні заробак у Польшчы — 487 даляраў, і надрукавала сьпіс заробкаў у залежнасьці ад рэгіёну і прафэсіі.**

Самыя бедныя ў Польшчы — некваліфікаваныя працаўнікі. Сакратарка варшаўскага дзяржліцэю атрымлівае 115 даляраў у месяц. Столькі ж — палова стаўкі прыбіральшчыцы ў банку на захадзе краіны. Вясковы настаўнік польскае мовы атрымлівае 125 даляраў, настаўніца ангельскай мовы ў павятовым гарадку — 180. А ўжо настаўнікі гісторыі зь Беластоку, маючы 24—30 гадзінаў нагрузкі ў тыдзень, зарабляюць 180—220 даляраў. Магчыма, таму выпускнікі Гарадзенскага ўнівэрсытэту і бягуць у польскія школы.

Прадавец уроцлаўскага супэрмаркету зарабляе 250 даляраў. 400 даляраў у месяц маюць доктар у варшаўскай больніцы, інжынэрсадавод, археоляг у прыватнай уроцлаўскай фірме і кіроўца гарадзкога аўтобуса.

500 даляраў зарабляюць біржавы маклер-пачатковец, сакратаркарыэлтарка, брыгадзір фірмы па продажы аўтапакрышак, фатограф пазнанскага рэклямнага агенцтва.

600 даляраў — заробак выкладчыка варшаўскай ВНУ, дырэктара сталічнага ліцэю, галоўнага бухгальтара будаўнічай фірмы.

Уроцлаўскі ды-джэй мае 750 даляраў, 800 — уладальніца касмэтычнага салёну ў павятовым цэнтры.

Ад тысячы даляраў маюць добры натарыюс, тэлевядучая рэгіянальнага каналу, прыватны стаматоляг, дырэктар турмы.

1250 даляраў зарабляюць трэнэр футбольнай каманды трэцяй лігі, журналіст павятовага радыё, шараговы судзьдзя. 1500 даляраў мае дырэктар страхавой кампаніі, мэр невялікага гарадка, трэнэр вядомай гандбольнай каманды.

Пражытковы ж мінімум у Польшчы на аднаго чалавека складае недзе 170 даляраў у горадзе і 120 даляраў у вёсцы. Больш за ўсё атрымліваюць кіраўнікі банкаў, буйных прадпрыемстваў — колькі сотняў тысяч даляраў у год. Але і назваць гэта заробкамі цяжка.

А беларус-нелегал, што працуе на будоўлі пад Варшавай па 6 дзён у тыдзень і па 12 гадзінаў у суткі, можа зарабіць 280—300 даляраў у месяц. А жытло бясплатнае, бо ў бараку.

Відаць, што ўсход і цэнтар краіны бяднейшыя за захад і поўдзень, таму і заробкі розьняцца.

**Мікола Бугай**

## Навіны зь Вільні

## Унівэрсам XVI ст.

**На Ратушнай плошчы ў Вільні археолягі знайшлі рэшткі будынку XVI ст. Ён меў два паверхі, даўжынёю быў 130, а шырынёй 15 мэтраў.** У ім месьціліся крамкі й майстэрні. Віленскі археоляг Кястуціс Каталінас кажа, што па функцыі будынак нагадваў сёньняшнія ўнівэрсамы. Разбурылі яго на мяжы XVIII—XIX ст.

## Насельніцтва паменшала

**Паводле перапісу, насельніцтва Літвы зьменшылася ў параўнаньні з 1989 г. на 184 тыс. і складае цяпер 3 млн. 491 тыс. жыхароў.** За гады незалежнасьці зь Літвы выехалі 50 тыс. савецкіх вайскоўцаў зь сем'ямі. Яшчэ 120—130 тыс. выехалі на Захад — ці як эканамічныя эміgranty, ці вучыцца. У 1989 г. на кожную тысячу мужчынаў у Літве прыпадала 1113 жанчын, зараз — 1139. Цікава, што зьменшылася насельніцтва ўсіх буйных гарадоў: камунальныя плацяжы такія дарагія, што шмат хто перабіраецца з гораду ў вёскі.

## Застанецца чатыры расейскія школы

**Сёлета ў Вільні з-за малой колькасьці вучняў былі зачыненыя тры расейскія школы.** Гэта зьвязана са зьніжэньнем нараджальнасьці і пашырэньнем польскамоўнае адукацыі (раней многія палякі вучыліся ў расейскіх школах). Агулам да 2010 г. плянуецца пакінуць у літоўскай сталіцы дзьве расейскамоўныя школы і дзьве гімназіі.

**С.Б.**

## Пра Расею

**21–22 лістапада ў Маскве адбудзецца небывалы па сваіх маштабах Форум грамадзянскай супольнасьці, у якім возьмуць удзел расейскія грамадзкія няўрадавыя арганізацыі ўсіх кірункаў дзейнасьці з аднаго боку і прадстаўнікі ўладаў — з другога (у тым ліку прэзыдэнт Расеі Пуцін). Асноўная мэта форуму — абмеркаваньне шляхоў разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці ў Расеі і яе ўзаемадзеяньня з уладай. Сход будзе праходзіць у Крамлёўскім палацы.**

**Гэтая падзея выклікала неадназначную рэакцыю ў асяродку грамадзкіх арганізацыяў і ў СМІ. Шмат хто з расейскіх грамадзкіх дзеячоў бачыць у форуме спробу дзяржавы ўсталяваць кантроль над грамадзянскай супольнасьцю. Арганізатары гэткія закіды адпрэчваюць. Ясна адно: у пуцінскай Маскве, пра якую кажуць, што яшчэ ніколі пасьля часоў Пятра І "яна не зьмяшчалася так далёка на Захадзе", няўрадавыя арганізацыі разглядаюць як важны інстытут грамадзтва.**

**Ня тое ў Беларусі, хоць беларускі "трэці сэктар" часта ацэньваюць як адзін з наймацнейшых у нашай частцы Эўропы (вядома, што міжнародныя фундацыі, якія займаюцца ўмацаваньнем грамадзянскай супольнасьці, зьбіраюцца выпраўляць актывістаў украінскага "трэцяга сэктару" на стажыроўку ў Беларусь). Для беларускіх уладаў няўрадавыя арганізацыі — варожая сіла. Улады ўдаюць, што іх няма, што яны ня граюць ніякай ролі.**

**У "НН" расейскі Грамадзянскі форум камэнтуе міжнародны каардынатар выканаўчага бюро Асамблеі няўрадавых арганізацый Беларусі Ірына Віданава.**

# Мы гэткае "праходзілі"

Беларускія няўрадавыя арганізацыі засяроджаныя на падвядзеньні вынікаў выбарчай кампаніі і выпрацоўцы ўласнай стратэгіі і тактыкі разьвіцьця ў пасьлявыбарнай сытуацыі. Магчыма, таму Грамадзянскі форум у Маскве не знаходзіцца ў цэнтры ўвагі нашага трэцяга сэктару. Дый сур'ёзна абмяркоўваць гэтую падзею можна будзе толькі пасьля таго, як форум завершыцца, бо ў Расеі заявы аб намерах могуць і ня мець рэальных вынікаў. Тое, што расейскія грамадзкія арганізацыі насьцярожана ставяцца да форуму, сьведчыць пра недавер з боку грамадзянскай супольнасьці да уладаў Пуціна.

Сумны беларускі досьвед "грамадзкага дыялёгу", які не прывёў да канкрэтных вынікаў, але мае нэгатыўныя для трэцяга сэктару наступствы, прымушае вельмі крытычна разглядаць такія ініцыятывы, калі яны зыходзяць ад дзяржавы. У Беларусі пасьля "дыялёгу" пачаўся моцны наступ на грамадзкія арганізацыі, улада імкнецца падпарадкаваць іх. Таму ў найбліжэйшай пэрспэктыве нейкае канструктыўнае партнэрства паміж грамадзянскай супольнасьцю і дзяржавай у Беларусі падаецца немагчымым. Цікава, чым скончыцца спроба ўсталяваньня гэткага партнэрства ў Расеі.

**Ірына Віданава**

## 27 тыс. расейцаў памерлі ад гарэлкі

**У Расеі ад ужываньня няякаснай алькагольнай прадукцыі сёлета памерлі ўжо 27 тысячаў жыхароў.** П'юць усё, што гарыць...

IN MEMORIAM

# Мацярык кізікаў



"Простым паваротам рэгулятара на сталёвых дзьвярах старшая сястра можа пускаць насьценны гадзіньнік з такою хуткасьцю, як ёй трэба: заманулася ёй паскорыць жыцьцё, яна пускае яго хутчэй, і стрэлкі круцяцца па цыфэрблаце, як сьпіцы ў коле".

Прывёў гэтую цытату зь "Зязюльчынага гнязда" дзеля ілюстрацыі ўласных пачуцьцяў. Пасьля сарака неяк асабліва востра адчуваеш плынь часу: валадар хронасу безразважна круціць рэгулятар, час ляціць і ўсё, што хвалявала колісь сэрца і розум, незваротна патанае ў шэрым калейдаскопе дзён. Але што дзіўна: тыя два золкія верасьнёўскія дні, калі я, паваліўшыся на тапчан і паклаўшы на грудзіну тры сшыткі "Новага міру", чытаў раман Кізі "Палёт над гняздом зязюлі", запомніліся да драбностак. Было гэта ў 1987-м, у таёжным цюменскім пасёлку, за сотні кілямэтраў ад цывілізацыі; знадворку сьпяваў віскуцень, па даху вагончыка, у якім я жыў, ляскатала адарваная бляха, а па мокрай шыбе паўзла, спрабуючы выбрацца на сухое, самотная мушка.

"Уявi сабе, — казаў герой рамана індзейцу Бромдэну, — Вялікі Правадыр Бромдэн ідзе па бульвары — мужчыны, жанчыны і дзеці задзіраюць галовы і глядзяць на яго", — я чытаў гэтыя радкі і ўяўляў, як мы, тры маладыя хлопцы, ішлі ў верасьні 70-га па нававолацкай вуліцы, басанож, у падзёртых капелюшах, у кашулях, расквечаных аніліновымі фарбавальнікамі ня горай ад таго аўтобуса, на якім Кен Кізі выпраўляўся ў свае вандроўкі, і мужчыны, жанчыны і дзеці задзіралі галовы й глядзелі на нас. Як і героі знакамітага рамана, мы бунтавалі. Дзяржава, у якой мы жылі, давала сваім грамадзянам мінімум даброт: малагабарытную двухпакаёўку, сьціплую ежу, нейкую вопратку — той жа балёневы плашч на плечы. Мы прагнулі большага, нам было цесна ў савецкім малагабарытным загоне. Нам хацелася слухаць "Бітлз" і "Ролінгаў", чытаць Кізі і Бёрджэса, насіць на худых азадках "лэвісаўскі" лэйбл, мы марылі наведаць Лівэрпуль і фэст у Вудстаку, а яшчэ мы прагнулі, узьбіўшыся на званіцу сваёй недасяжнай мары, дыхнуць на поўную грудзіну і плюнуць на ленінскі камсамол. Дакладней, на прылізаных камсамольскіх важакоў, якія ў тыя далёкія 70-я гады спрабавалі нас выхоўваць.

Надарылася тое, што і павінна было надарыцца. Мушка, якая завіхалася на мокрым шкле, так і ня выбралася на свой мацярык, вязень псыхушкі Макмёрфі — герой "Зязюльчынага гнязда" — зазнаў паразу, бунтар Кен Кізі ўрэшце махнуў на ўсё рукой і зьехаў у Арэгон, дзе стаў вырошчваць сельдэрэй і артышокі, а былыя камсамольскія работнікі, у большасьці вясковыя мальцы, сталіся ў Беларусі гаспадарамі жыцьця. Сёньня ў гэтых калгасьнічкаў, якія з маладых дзён ведалі — што дзе казаць і куды лізнуць, якія зроду ня слухалі "Ролінгаў" і не чыталі Кена Кізі, усё схоплена. І я дзячу Богу, што яны яшчэ не схапілі нас, былых кізістаў, людзей, якіх на золку жыцьця наведаў бунтарскі дух.

Чытаючы жыцьцяпіс бітніка прыгожага пісьменства, міжволі шукаеш раўналежнікі паміж колішнімі сваімі інтэнцыямі і жыцьцёвай філязофіяй Кена Кізі. На жаль, а можа і на шчасьце, мы, тады яшчэ наіўныя падлеткі, ня мелі магчымасьці прачытаць яговых раманаў, і закладзеная ў іх філязофія ня сталася этыкетам нашых паводзінаў. І ўсё ж мы маем права назваць сябе кізістамі, ці, лепш сказаць, кізікамі. І хай гэты наватвор ня надта лагодзіць слых, але затое ён напоўніцу адпавядае маладзёвай эстэтыцы 70-х. Пасьля невялічкай паўзы заўважым: не прайшлі міма нас і наркотыкі. Ну, вядома, гэта быў не гераін і не *LSD*, а нейкая брыда, якую прывозіў з грузінскага Руставі адзін мой знаёмы па мянушцы Жыган.

У папулярныя сярод савецкага афіцэрства папяросы "Казьбек" замест тытуню была напханая каляная трава, ад якой, як казаў Жыган, можна было заляцець на аблокі. Паводле сьведчаньня знаёмца, травой гэтай забаўляўся сам Пол Макартні, і такі аргумэнт прымусіў з понтам, як тады казалі, стукнуць папяросінай па пачку і шчоўкнуць запальніцай. Нічога не адчуўшы, я высмаліў яшчэ пару папяросін, а потым цэлую гадзіну ванітаваў у прыбіральні, дарэшты ўсьвядоміўшы, што чалавечае стаеньне складаецца ня толькі з душэўных парываньняў, але і з памылак.

Раман, пра які тут гаворка, зьявіўся сьвету ў 1962 г. Цікавы быў час: на парыскай сцэне сьпяваў пра апалае лісьце Іў Мантан, за акіянам пачынаў брынкаць на гітары Піт Сыгер, а на нябачным з-за шчыльнага ідэалягічнага туману Альбіёне ўжо гучаў дуэт Джона і Пола. "Над зязюльчыным гняздом" сталіся перадвесьцем цэлай эпохі — зь яе бітнікамі, гіпі, антываенными дэманстрацыямі, барыкадамі ў Лацінскім квартале і гіпнатычнымі зонгамі Джыма Морысана. Скончылася бурная эпоха на пачатку 70-х, акурат тым часам, калі моладзь захапілася іншай эстэтыкай і іншым бэстсэлерам — аповесьцю Эрыка Сыгала *Love Story*. І гэта дае магчымасьць сьцьвярджаць, што рэпэрамі гісторыі зьяўляюцца не рэвалюцыі, а кнігі.

Пісьменьнік Кізі ўважаў навакольны сьвет задужа прагматычным, сур'ёзным і хцівым, а таму й непрымальным для сябе. Пісьменьнік ня толькі сваёй творчасьцю, але й эксцэнтрычнымі паводзінамі змагаўся з усясьветным прагматызмам, сур'ёзнасьцю і хцівасьцю. І, як Ільліч пра сто тысяч трактароў, марыў пра сто тысяч размаляваных школьных аўтобусаў. Сьмерць Кізі ня выклікала патэтыкі. Пабачыўшы на тэлеэкранах партрэт свайго колішняга куміра, сівагаловыя амэрыканцы, ангельцы і французы сумна пасьміхнуліся, згадаўшы панашаныя джынсы, дэманстрацыі на 5-й авэню і саладжавы пах марыхуаны. Дзея ў Марксавай парадыгме: чалавецтва весела разьвітаецца са сваім мінулым.

Апошнім часам мне здаецца, што там, на другім баку сусьвету, душа — хай і на кароткі час — стрэнецца з душамі іншых людзей. Я паспрабаваў пералічыць тых, з кім хацеў бы стрэцца. Такіх людзей аказалася няшмат: дзьве блізкія мне жанчыны, Максім Багдановіч, Джон Ленан. Вось сёньня далучыў да сьпісу Кена Кізі.

**Вінцэсь Мудроў**

Уладзімер Содаль

# Ізноў Мігаўка, ці Апошнія сьведкі

Сёлета 60 гадоў, як бальшавіцкія камісары зьвялі з жыцьця аднаго з самых вялікіх беларусаў XX ст. — жыцьцялюба Аляксандра Ўласава, рэдактара першай праўдзіва народнай у Беларусі газэты "Наша Ніва", эканаміста, асьветніка, сэнатара, чалавека, які разам са сваімі аднадумцамі дамагаўся для Беларусі незалежнасьці, вольнасьці.

То як хто памятае ў роднай старонцы Ўласава?! Ці памятаюць? Паспрабуем пашукаць сярод таго люду, дзе ён жыў, — у Мігаўцы і ў навакольных вёсках — Дзяшкінях, Шалухах, Пяцолях, Гранічах. На гэты раз я выбраўся ў дарогу зь Міколам Лавіцкім, чалавекам, чуйным да слова, да нашага нацыянальнага жыцьця. Выбраліся на ягоных равэрках, з тэлекамэрай. З Пралесак паўз Купалаву Вязынку ў суседнія зь Мігаўкай Дзяшкіняны.

...Праляцеўшы на роварах кулём зь Дзяшкінянскай гары ледзь ня цэлы дармовы кілямэтар, мы тармазнулі ля першага двара. Наважыліся адсюль распачаць свае роспыты. Двор быў абжыты, дагледжаны. Але з хаты доўга нікто не выходзіў. "Паехалі!" — сказаў мой падарожны. "Пачакаем!" — запярэчыў я. І вось тут якраз выйшла гаспадыня. Разгаварыліся, патлумачылі, што нас цікавіць. Яна сказала, хто зь вяскоўцаў можа што-кольвек распавесьці пра Мігаўку і яе гаспадара. Зь дзяшкінянцаў назвала Веру Закрэўскую і Эдуарда Дашкевіча. Толькі яна скончыла гэты свой пералік, як з суседняй вулачкі выйшаў чалавек з жалезным молатам у руцэ. Апрануты будзённа, нібыта толькі-толькі трактар ці сеялку ладзіў.

— А вось і яшчэ адзін мігавец ідзе! — сказала гаспадыня. — Ягоны бацька ва Ўласава ці то парабкам, ці то арандатарам быў.

Чалавек пачуў, зацікавіўся, што гэта за людзі, што пра яго гавораць, падышоў. Павіталіся. І ён пацьвердзіў, што ягоны тата служыў ва Ўласава, жыў на ягонай сядзібе. На гэтай сядзібе гадаваўся і ён, Янка Яблонскі. Гэтак жа звалі і ягонага бацьку. Малодшы Янка нарадзіўся ў 1933-м, дык тое-сёе памятае пра гаспадара Мігаўкі. Прынамсі, распавёў, як рабавалі бібліятэку Ўласава.

— ...У 1939-м прыехалі дзьве параконныя фурманкі з рознымі ўпаўнаважанымі, і давай тыя кнігі з хаты Ўласава ахапкамі насіць. Нанасілі два вазы з каптуром ды ўжо крануліся, а адна кніга зьехала з возу, дык я падхапіў яе. Там такія файныя коні, валы, каровы, быкі на малюнках былі — галяндзкія, швайцарскія, што я не стрымаўся, прытаіў: "Хай мне будзе!" — падумаў. Так тая кніга мне спадабалася... Але я мала пакарыстаўся той кнігай: вайною згарэла разам з хатаю. А тыя, што павезьлі на фурах у Радашкавічы, такія ня кожная бібліятэка мела. Усё эканамічныя, па гаспадарцы. У тоўстых чырвоных вокладках...


Аляксандар Уласаў

Яшчэ Янку Яблонскаму ў памяці табліца белая — шыльда, прымацаваная да дрэва. На ёй чорнымі літарамі было выпісана: "Мігаўка — фальварак Аляксандра Ўласава". Трошкі і самога Ўласава памятае: магутны, як асілак, здавалася, зямля пад ім прагнецца. Голас, як труба, глухі, зычны. Вучыў людзей жыцьць, гаспадарыць... Стараўся ўсё для навукі...

Усё, што расказваў Янка Яблонскі, Мікола Лавіцкі зьняў на тэлекамэру. Праўда, напачатку Янка ўпарціўся: здымацца ня трэба! Навошта! Ён так апрануты. Нягалены. От, паслухалі і годзе. Але Мікола малайчына: пераканаў, угаварыў, што для вёскі гэта натуральна. Тут няма калі модніцаць ды фарсіць...

Ну, але дзякуй спадару Янку за ягоныя згадкі і гайда далей, да 94-гадовай Веры Закрэўскай. Вось дзе, думалася, пачуем успаміны і згадак пра Ўласава! Але бабка Вера выправіла нас у Мігаўку: "Там ёсьць Верка Галубовіч. Ніхто за яе лепей вам не раскажа пра Ўласава і Мігаўку, як яна. Яна там нарадзілася, там гадавалася. Бацькі яе хаўрусавалі з Уласавым... Яны былі суседзі..."

Па дарозе мы заскочылі ў яшчэ адзін дзяшкінянскі двор з тым жа клопатам: што тут ведаюць пра Ўласава, балазе ўся сям'я была якраз на панадворку.

— А ну яго, гэтага Ўласава! — выпаліў гаспадар. — Пазычыў у маёй бабкі жбан золата, а аддаў керанкамі...

Дыму без агню не бывае. Уласаў, каб неяк рухаць беларускія ідэі, і напраўду шукаў і здабываў сродкі на свае асьветніцкія клопаты. Давадзілася, і пазычаў, і ахвяраваўся. І той жбан золата ці злотых, калі ён яго толькі пазычаў, таксама пайшоў на асьвету, на навуку саміх жа мігаўцаў і іхных суседзяў. То ці варта на самаахвярніка да гэтае пары трымаць якуюсь затоенасьць?

От з такімі зьвесткамі мы пераскелі віленскі гасьцінец. Адсюль Мігаўка як на далоні: уся на пагорку. Унізе ручаінка, а пры ёй поплаў-балацянка. Едзем з гоні бярозавымі прысадамі. Пры канцы гэтых прысад заўважаем стары бэзавы куст. Скуль ён тут? Звычайна бэз садзілі на сядзібах: у гародчыках, палісадах, пад вокнамі. Адчуваю, што ён тут расьце ня так сабе. Ля гэтага бэзавага куста збочваем на колішнюю сядзібу Ўласава. Пераяжджаем масток цераз рачулку — і на пагорачку за ліпай з прыгрэбнікам і студняй зграбны, прыветна жоўценькі дамок. Цяпер у ім лецішча сына колішняга Ўласавага арандатара Ўладзімера Грыгальчыка. Грыгальчык жыве ў Менску. Дамаўляемся, каб не марнаваць і яго, і нашага часу, спаткацца зь ім у Менску і там пра ўсё пагаманіць, з фатаздымкамі, з дакумэнтамі. А заraз — да Веранікі Галубовіч-Уладыкі. З Веранікай Галубовіч у мяне гэта другая сустрэча. Першая была ў 1997-м, калі здымалі тэлевізійны нарыс пра Ўласава. Тады я пазычыў у яе колькі цікавых мігаўскіх здымкаў. То хацеў некаторыя зь іх расшыфраваць, удакладніць, расчытаць. Дый спадзяваўся, што пачую што-кольвек новае пра Мігаўку, Уласава, ягоную сям'ю, суседзяў. Прынамсі, мне карцела здабыць хоць жменьку зьвестак пра ўласаўскага арандатара Кастуся Лагуновіча, які за апошнія гады зрабіў шмат прыкрасьцяў Уласаву.

— ...Высокі, панурысты, прыхаваны скнара. Арэнду з Уласавым заключыў на шэсьць гадоў. Арандаваў і ўсё думаў, як гэта атрымаць прыбытак такі, каб сысьці з двара, завесьці сваю гаспадарку. Арэнда была досыць утульным і прывабным куточкам. Але гэта была чужая гаспадарка, а хацелася мець свой кут, і ён мусіў заняцца розным махлярствам. На сядзібу зачасьцілі паліцыянты, раз-пораз штрафавалі Ўласава. Хтось пісаў на яго даносы. Пасьля ён пераканаўся: гэта рабіў ня хто іншы, як Лагуновіч.

Шэсьць гадоў ён арандаваў Мігаўку. Шэсьць гадоў краў, хаваў. Мала што з арэнды меў палову дабра, дык яшчэ і махляваў. Малоцяць, дык мяшок-другі ў мякіну ці салому прыхавае, прытоіць, а пасьля прадасьць. Вось капейка. Капейка да капейкі, злоты да злотага, глядзіш — і капітальчык зьбіраецца. Неўзабаве Лагуновіч пакінуў Мігаўку. Купіў у недалёкіх Пяцолях дванаццаць гектараў зямлі. Навазіў камянёў, каб будавацца, але не пасьпеў. Праўду людзі кажуць: на чужым няшчасьці не будзе шчасьця. Лагуновіча і ўсю ягоную сям'ю, як і самога Ўласава, вывезьлі ў Сібір.

Я пацікавіўся, ці памятае спадарыня Вера, як арыштоўвалі Ўласава, як рабавалі ягоную сям'ю, як рабавалі Мігаўку.

"Чаму ж ня помню? Помню... Толькі гэта было нейкае павольнае рабаваньне. Самога Ўласа забралі ж ня ў Мігаўцы. Ён сам да іх паехаў у Маладэчна. Адтуль яго ўжо і ня выпусьцілі. Пасьля прыехалі па сям'ю. Але жонка з малымі хавалася ў суседняй вёсцы. Яе шукалі. Прыходзілі і да нас, але ў нас іх не было. Знайшлі і на Сібір саслалі. А ва Ўласавай хаце пачалі жыць Грыгальчыкі, сям'я колішняга арандатара. Ва Ўласава ж была неблагая гаспадарка: такі, пуні, малатарні, арфы, малачарні...."

Амаль усе мігаўцы называюць Уласава ўскарот — Улас ці Аўлас. Вядома, я ня мог не пацікавіцца, чаму.

"Аўласы былі праваслаўныя, рускія. А нам, беларусам, неяк невымоўна іхная назьвіска. І от мы на свой беларускі лад іх так і называлі, і называем: хто Ўлас, хто Аўлас, Аўласы, Аўласіха. Для нас і імёны іхных дзяцей былі нязвыклыя — Алег і Дзіма. У нас такіх імёнаў не было..."


Аляксандар Уласаў з жонкаю Аляксандраю на сваім мігаўскім падворку. 20-я гады. Рэпрадукцыя В. Ставеры

Згадаўшы пра дзяцей Уласава, спадарыня Вера прыгадала, што Аўласы трымалі маленькага мядзьведзіка. "Дужа яго ўсе любілі ў Мігаўцы. З гэтым мядзьведзікам Дзіма і Алег прыходзілі на наш падворак. Тут расло высокае дрэва, дык тое мядзьвянё на яго як забярэцца, дык цяжка было зманіць яго з дрэва! Весела з гэтым мядзьведзікам было..."

Карцела мне пацікавіцца, як мігаўцам запомнілася 17 верасьня 1939 г., бо шмат з таго, што перажылі суседзі Ўласава, перажыў і гаспадар мігаўскага фальварку. Пра гэта Вераніка Галубовіч распавяла так: "...Ужо зь вечара з-за Радашкавічаў да Мігаўкі далятаў якісь гул, шум. Польска-савецкая мяжа гула, як растрывожаны вулей. Было яшчэ досыць цёпла. Мой брат Пётра спаў у садзе. Заходзіць сярод начы ў хату, усіх будзіць: "Паслухайце, што робіцца!" А ўжо на досьвітку па тракце плыло якоесь нязвыклае для нас войска: у абмотках з чаравікамі, у шапках з пупамі і зоркамі. Конікі пад імі маленькія, нізкарослыя, ногі па зямлі валакуцца. За коньніцай колькі няўклюдных панцыраў танкаў ці танкетак куртатых. Шмат хто з мігаўцаў выйшаў сустрэць іх. З кошыкам яблыкаў выйшаў са свайго фальварку на тракт і Ўласаў. Балазе ён жыў пры самым тракце. То як яму было ня выйсьці, не падзівіцца, што гэта за рух тут такі. Аднак чырвонаармейцы толькі дзякавалі за пачастунак, але яблыкаў ня бралі. Ім было, мусіць, так загадана.

Камісары хутка разабраліся, што гэта за птушка — Уласаў зь Мігаўкі. Найперш канфіскавалі зямлю. Усяго ва Ўласава яе было шэсьцьдзесят гектараў. Аднак сяляне ўсіх навакольных вёсак сабралі сход і вырашылі пакінуць за Ўласавым пяць гектараў зямлі. Зямля была адзіным сродкам ягонага існаваньня. А што далей адбылося з Уласавым — я ўжо расказвала..."

Шмат чаго яшчэ, пэўна, магла б расказаць спадарыня Вера. Але нам была пара вяртацца ў Пралескі, каб адтуль трапіць на электрычку. Адзінае, што я яшчэ пасьпеў спытацца ў яе, дык гэта пра той стары бэзавы куст пры бярозавых прысадах.

— А там калісь, — патлумачыла спадарыня Вера, — за часамі Ўласа, быў высокі драўляны крыж — абярэг. Ён аберагаў Мігаўку і ўвесь яе абшар ад усялякай пошасьці і нечысьці. Ля яго, надараліся, і маліліся...

Во гэтак, зусім нечакана, выплыў зь небыцьця і яшчэ адзін штрышок зь мігаўскага побыту часоў Уласава.


Сядзібная ліпа Аляксандра Уласава ў Мігаўцы. Фота А. Каляды.

## Кажух ад Купалы

29 лістапада 1940 г. была прынятая канчатковая Пастанова *Особого совещания при НКВД СССР*, паводле якой Уласаў быў засуджаны на пяць гадоў. Неўзабаве колішні рэдактар быў накіраваны ў папраўча-працоўны лягер у Новасібіршчыну — на "перавыхаваньне". Везьлі Ўласава, як і ўсіх іншых вязьняў, у "цялятніку" бяз вокнаў. Але Ўласаў і ў паўзмроку, інтуіцыйна, адчуваў, што цягнік мінае знаёмыя мясьціны. Вось тут дзесь павінны быць Алёхнавічы. А там рукою падаць і да ягонае Мігаўкі, Радашкавічаў. Усе гэтыя куточкі яму знаёмыя: ён аб'ездзіў іх на сваім ровары ўздоўж і ўпоперак. Дзе ён цяпер, гэты равэрак? Які бальшавік на ім катаецца? Дзе дзеці, жонка? І яшчэ адно дужа турбавала Ўласава. Яму ўдалося перадаць на волю цыдулку да Янкі Купалы і Якуба Коласа. Ці дойдзе? Ці хоць як паспрыяюць яму колішнія яго паплечнікі? Хоць бы якой цёплай вопраткі парупіліся. Вязуць жа яго ў Сібір, на зіму ў адным летне-восеньскім гарнітуры. Перад Менскам сэрца затахкала часьцей: ці стрэне яго хто тут? ...Янка Купала выведаў, калі будзе ісьці цягнік зь вязьнямі праз Менск, і прынёс колішняму свайму апекуну і паплечніку кажух. Уласаў быў удзячны Купалу. Той кажух грэў ня толькі цела, але і душу, не адзін раз аблегчыў ягонае паднявольнае жыцьцё. Але і кажух яго не ўратаваў. Лягерные жыцьцё неўзабаве падкасіла рэшту сілы, і, паводле афіцыйных зьвестак, 11 сакавіка 1941 г. Уласаў, зьнясілены нечалавечым лягерным побытам, сканаў.


Уласаў у 1940-м

**Гісторыю пра Купалаў кажушок пераказаў Міхал Казлоўскі з Маладэчна, а ён пачуў яе колісь ад Генадзя Каханоўскага.**

Камэнтар

# Культурнае злачынства нацыянальнага маштабу

Валерка Булгакаў,
галоўны рэдактар
часопісу "Arche"

Забарона газэты "Пагоня" — гэта не асабістая ініцыятыва судзьдзі Жандарава, а воля найвышэйшага беларускага кіраўніцтва. Гэтай забаронай яно выяўна паказала, што баіцца ня розных расейскамоўных газэт і газэтак зь лібэральнымі поглядамі, а выданьня, якое мае культуратворчае значэньне для цэлага рэгіёну Беларусі. На Гарадзеншчыне традыцыйная беларуская культура захавалася найлепш і адначасна рэйтынгі Лукашэнкі найменшыя. Беларускае кіраўніцтва гэтай акцыяй палітычнага запалохваньня спрабуе палепшыць там сваё становішча. І тым самым робіць культурнае злачынства нацыянальнага маштабу.

Павелічэньне колькасьці і якасьці беларускамоўных лукашэнкаўцы ўважаюць за адзіную рэальную пагрозу для стваранай імі дзяржавы. Калі беларускамоўныя беларусы дзякуючы ўласнай сыстэме адукацыі, СМІ і г.д. здабудуць палітычную ўладу ў краіне, адбудзецца рашучы пераварот у палітычным курсе дзяржавы. Маса лукашэнкаўскіх халуёў застанецца без ранейшай, звыклай працы. Таму лукашэнкаўцы ідуць на самыя гнюсныя захады: зьнішчэньне сыстэмы беларускамоўнай асьветы, закрыцьцё беларускамоўных СМІ, спыненьне датаванага дзяржавай кнігавыдавецтва на беларускай мове і г.д.

Статус беларускамоўных беларусаў у лукашэнкаўскай дзяржаве падобны да таго статусу, які мелі ў Расейскай Імпэрыі "ўнутраныя ворагі" — "жыды і палякі". Калі нельга зьнішчыць іх фізычна, то трэба адсунуць на пэрыфэрыю культурнага, палітычнага і інш. жыцьця.

Карыстаючыся бруднымі мэтадамі, лукашэнкаўцы ствараюць такую традыцыю ажыцьцяўленьня палітычнай улады, якая на мэнтальным узроўні зможа захоўвацца цэлыя пакаленьні. На маю думку, у гэтым найбольшая небясьпека такіх мэтадаў. Узяўшы ўладу, беларускамоўныя палітыкі могуць апынуцца ў палоне гэтай традыцыі, і тады іх дзеяньні будуць мала розьніцца ад цяперашніх дзеяньняў лукашэнкаўцаў.

Размовы пра поўнамаштабную лібэралізацыю засталіся пераважна размовамі. Сама тэма лібэралізацыі вельмі выгадная рэжыму ва ўнутранай палітыцы, бо яна дэзарыентуе ягоных апанэнтаў, выклікае іх асьцярожнае зацікаўленьне і нават захапленьне яго "гнуткасьцю". Ня менш яна выгадная ў замежнай палітыцы, асабліва як своеасаблівае прапагандысцкае забесьпячэньне беларуска-расейскай інтэграцыі. Уплывовыя расейскія палітыкі шматкроць наракалі на несумяшчальнасьць эканамічнага ўкладу Беларусі і Расеі, а пасьля палавіністай эканамічнай лібэралізацыі ім гэта будзе рабіць цяжэй. Тое ж самае датычыць і іхных заходніх калегаў.

Эканамічная лібэралізацыя — гэта бяспройгрышны варыянт для беларускага рэжыму. У выпадку посьпеху ён атрымае яшчэ больш матэрыяльных рэсурсаў для ажыцьцяўленьня свайго палітычнага курсу, а няўдачу заўжды можна сьпісаць на "ўнутраных ворагаў".









# Зьезд мастакоў

**Саюз мастакоў зьбірае чарговы 17-ы зьезд. Сёньня ў Саюзе больш за 1100 сяброў (у 1987 г. было ўсяго 556). Саюз паўстаў у 1932 г. на месцы шматлікіх мастацкіх суполак і групаў. Сярод першых старшыняў былі Аляксандар Грубэ, Іван Ахрэмчык, Яўген Зайцаў, Андрэй Бембель. Саюз быў створаны з мэтай ажыцьцяўленьня кантролю за мастакамі.**

**Цяпер дыктат улады мастакоў не гняце (сацыялістычны рэалізм перастаў быць адзінай дазволенай плыняй), але няма й ранейшай фінансавай падтрымкі. Супрацоўнікі Мастацкага музэю баяцца, што не дажывуць да канца будоўлі новага корпусу. Палац мастацтваў патрабуе капітальнага рамонту. Музэй сучаснага выяўленчага мастацтва існуе толькі ў праектах.**

**Вось у такіх умовах Саюз зьбірае чарговы 17-ы зьезд. Галоўнае пытаньне новага зьезду — як дабіцца вызваленьня ад падаткаабкладаньня ўсіх прадпрыемстваў Саюзу. І, як зазвычай, выбары новага старшыні.**

**Калі старшынём застанецца Генадзь Буралкін, гэта будзе ягоны пяты тэрмін. На думку мастакоў-нонканфармістаў, "ён надта прырос да свайго крэсла". Сярод новых кандыдатаў называюць прозьвішча Міколы Апіёка, які ў інтэрвію для газэты "Рэспубліка" ўсенародна пакляўся ў любові да Лукашэнкі. Ідэальна блізкія стасункі з уладамі мае і А.Кузьміч. (Толькі на ягоныя выставы ходзіць Лукашэнка.)**

**Гавораць у менскіх майстэрнях і пра кандыдатуру Алеся Марачкіна. Такі выбар мог бы стаць сапраўднай сэнсацыяй — Марачкін вядомы сваім удзелам у суполцы "Пагоня". Ягоныя апанэнты сеюць думку, што, калі старшынём зробіцца сябар "Пагоні", улады адвернуцца ад Саюзу і арэндная плата за квадратны мэтар майстэрняў узрасьце да сямі-васьмі тысяч рублёў у месяц (зараз яна гэткая ж, як і кватэрная).**

**Сам Марачкін яшчэ ня вырашыў, балятавацца яму ці не. Ён мяркуе, што добрымі кандыдатамі на пасаду старшыні маглі б быць У.Тоўсьцік, Г.Вашчанка, У.Басалыга, Л.Шчамялёў — такія мастакі, зь якімі былі б вымушаныя лічыцца ўлады.**

**Будзе вылучаць сваю кандыдатуру і Георгі Лойка, якога не абралі мінулым разам. Дый ня ён адзін: мастакі — людзі настрою.**

## Алесь Марачкін: "Немагчыма замкнуцца ў майстэрні"

*З карэспандэнтам "НН" гутарыць мастак Алесь Марачкін*

**"НН": Што ўяўляе сабой Саюз мастакоў сёньня?**

**А.М.:** Саюз такі вялікі, што зараз ужо набірае крытычную масу й можа разбурыць сам сябе. Столькі людзей, ідэй... Няма еднасьці, як прафэсійнай, так і духоўнай. Няма суладзьдзя. Групы павінны аб'ядноўвацца — па інтарэсах. Але стасункі між групоўкамі павінны быць сяброўскія. Мы прапаноўвалі называць членаў Саюзу сябрамі. Дык адзін мастак з кіраўніцтва сказаў: "Я супраць. Які ён мне сябар". Вось каб мы аб'ядноўваліся на сяброўстве, на аснове супольных зацікаўленьняў...



ЯЎГЕН КАЗЮЛЯ

**"НН": Якія праблемы, што маюць закранацца на Зьезьдзе, хвалююць вас найперш?**

**А.М.:** Найперш неабходна аднавіць вытворчыя базы Саюзу. Барысаўскі камбінат (керамічны цэх, цэх габэленаў) фактычна зьнішчаны. Яшчэ на Зьезьдзе будзе ўдакладняцца структура кіраўніцтва. Варта было б, для балянсу кіраваньня, падзяліць уладу на "заканадаўчую" і "выканаўчую". Цяпер і Саюз мастакоў, і ягоную Вялікую раду ўзначальвае адна асоба — старшыня. Лепей гэтыя пасады падзяліць. "Маршалкамі" Вялікай рады маглі б стаць Г.Вашчанка, Л.Шчамялёў, У.Басалыга.

**"НН": Якое самае значнае дасягненьне Саюзу мастакоў за апошнія гады?**

**А.М.:** У гісторыі выяўленчага мастацтва Беларусі застаўся "Бібліяграфічны даведнік" 1998 г. Але й тут ня ўсё праходзіла чыста. Да апошняга дня хавалася, што першую старонку даведніка "ўпрыгожыць" здымак Лукашэнкі. Ведаю, многія з маіх сяброў адмовіліся б знаходзіцца зь ім у адной кнізе.

**"НН": Хто, на Вашую думку, вінаваты ў разбурэньні дому на Дзімітрава, 3?**

**А.М.:** Гэта віна ня толькі мастакоў, але ў першую чаргу Мінстэрства культуры. Як можна было працаваць у сьценах без ацяпленьня й каналізацыі? І ўсё роўна абараняць гэты будынак трэ было да канца. Пасьля рэканструкцыі ён мог бы стаць музэем беларускага Адраджэньня.

**"НН": Ці апякуецца Міністэрства культуры маладымі творцамі?**

**А.М.:** Міністэрства культуры й асобы з Экспэртнай камісіі (якія павінны папаўняць мастацкі фонд Беларусі) часьцей набываюць аўтарытэтных для іх мастакоў. Калі б Траццякоў і Мамантаў глядзелі на мэдалі й шляхецтва, яны ня склалі б сваіх калекцый. Маладыя вымушаныя рэалізавацца за мяжой. Там працуюць і там прадаюць свае творы.

**"НН": Як складаюцца стасункі паміж суполкай "Пагоня" і Саюзам мастакоў?**

**А.М.:** Усім вядомыя штогадовыя выставы суполкі, прысьвечаныя 25 сакавіка. Сёлета "Пагоні" — 10 гадоў, але нам не далі выставіцца. Прычына — 4 чалавекі з суполкі не заплацілі за майстэрні. Мы падрыхтавалі юбілейны каталёг. Але да гэтага часу ня можам надрукаваць. Той, ад каго гэта залежыць (дырэктар друкарні), бярэ на сябе не ўласьцівыя яму абавязкі цэнзара. Рашэньне прэзыдыюму Саюзу мастакоў "надрукаваць у сувязі з 10-годзьдзем" на яго ня дзейнічае. Бач ты, на фатаздымках у нас то Быкаў, то Арлоў, то Зянон, то Пагоня.

Нашую суполку часта вінавацяць, што гэта менш творчая, але больш палітычная група. Я не баюся гэтых ярлыкоў. Мы думаем пра Беларусь. А раз так, мы ня можам быць убаку ад таго, што робіцца ў краіне. Калі пачалі ламаць крыжы, я быў там, у Курапатах. А наш Рыгор Кійка кінуўся ў натоўп, яго зьбілі.

Калі інтэлігенцыя й мастакі кажуць, што яны па-за палітыкай, ці не хітруюць яны душою? Ходзяць, так бы мовіць, з дулямі ў кішэнях, але ордэн ад "самага галоўнага" прыняць ня грэбуюць. Немагчыма замкнуцца ў сваёй майстэрні ад сьвету.

**"НН": Выказваецца думка, што, калі пасаду старшыні зойме сябра суполкі "Пагоня", улады адвернуцца ад Саюзу.**

**А.М.:** Чаму трэба баяцца, што ўлады адвернуцца ад мастакоў? Хіба апошнія 10 гадоў яны павернутыя да творцаў прыстойным бокам? У Палацы мастацтваў такая халадэча, што варта перайменаваць яго ў Лядовы палац, заліць вадою, запрасіць Рыгоравіча, няхай сабе катаецца, ганяе шайбу.

**Гутарыла Крысьціна Пучынская**

## Зварот габрэяў да мастакоў

**17 лістапада Сусьветнае згуртаваньне беларускіх габрэяў зьвярнулася з адкрытым лістом да зьезду Беларускага саюзу мастакоў.** Прэзыдэнт згуртаваньня Якаў Гутман заклікае мастакоў не пераабіраць на новы тэрмін старшыню БСМ Генадзя Буралкіна, на якім ляжыць адказнасьць за разбурэньне былой сынагогі па вуліцы Дзімітрава. У лісьце яшчэ раз дакумэнтальна пацьвярджаецца культурна-гістарычная каштоўнасьць будынку, яго значнасьць для беларускага жывапісу нацыянальнага адраджэньня. Беларускія габрэі ўпэўненыя, што прыйдзе час, калі сынагога будзе адноўленая, а на ейных сьценах зьявяцца мэмарыяльныя дошкі з інфармацыяй пра ўсе падзеі беларускай культуры, зьвязаныя з гэтым будынкам.

**Э.Л.**

## Збор грошай на Курапаты

У менскай галерэі "Золата" (вул. Сурганава, 16) адкрылася выстава-продаж "Усё — часовае, мастацтва — вечнае". Зладзілі яе менская арганізацыя ТБМ і мастакі. Працягнецца яна адзін тыдзень. Выстава — дабрачынная, сродкі ад продажу твораў пойдуць на пабудову мэмарыялу ў Курапатах.

На выставе прадстаўленыя ня толькі палотны, але й скульптуры з мармуру, граніту, бронзы, дрэва. Як на сярэдні заробак, цэны могуць падацца завялікімі — самы дарагі твор каштуе 1800 даляраў. Самы арыгінальны экспанат — драўляная прасьніца Алеся Марачкіна з абразамі.

**Каталёг дабрачыннай выставы:**
І.Засімовіч. "Ніка", мармур, граніт (300 даляраў);
І.Засімовіч. "П'ета", бронза, дрэва (300$);
Ю.Хілько. "Вершнік", зьмяшаная тэхніка (300$);
Ю.Хілько. "Праз камяні ", зьмяшаная тэхніка (350$);
В.Копач. "Сям'я", бронза (350$);
А.Пушкін. "Гарадзішча", ДВП, алей (240$);
С.Цімохаў. "Два месяцы", палатно, алей (700$);
С.Цімохаў. "Два дрэвы", палатно, алей (700$);
А.Суша. "Першага верасьня", палатно, алей (300$);
П.Русак. "Крык птушкі", палатно, алей (450$);
П.Русак. "Крыжы", палатно, алей (400$);
С.Стахоўская. "Ноч", палатно, алей (250$);
А.Марачкін. "Кампазыцыя № 3", палатно, алей (350$);
І.Марачкін. "Сьвята куста", палатно, алей (350$);
Г.Драздоў "Рэшткі цывілізацыі", палатно, алей (450$);
Г.Драздоў. "На крылах свабоды", палатно, алей (400$);
В.Касьцючэнка. "Вербніца", палатно, алей (400$);
А.Марачкін. "Прасьніца", дрэва (150$);
А.Купрыянаў. "Залатое сэрца", бронза (1800$).
Даведкі праз тэл. (017) 286-36-10.

# Тэатар на паперы



**Уладзімер Драздоў. Альбатросы: Просты вагон на Парыж з усімі перасадкамі; Мадам Баншанс: П'есы = *Альбатросы: Прямой вагон в Париж со всеми пересадками; Мадам Боншанс: Пьесы = THE Albatrosses: Direct Train To Paris With All Interchanges; Lady Luck: Plays.* — Менск.: "Белсэнс", 2001. — 128 с.**

Аўтар — Уладзімер Драздоў. Белая кніжка з фатаздымкам на вокладцы. Дзьве п'есы ў трох мовах — беларускай, расейскай і ангельскай. Быць можа, менавіта такім будзе звычайнае выданьне новага тысячагодзьдзя — разьлічаным на разнамоўнага чытача.

Першая п'еса мае назву "Просты вагон на Парыж з усімі перасадкамі", але заўзятым тэатралам яна вядомая як "Шагал, Шагал". Менавіта так называецца спэктакль, які быў з посьпехам прадстаўлены на міжнародных тэатральных фэстывалях у Торуні (Польшча), Кішынэве (Малдова), Фрыулі (Італія), атрымаў прыз *Fringe First Award* на Эдынбурскім фэстывалі і спэцыяльны прыз на Міжнародным фэстывалі "Белая вежа" ў Берасьці летась. Аўтар пачынае кнігу ня з Марка, а з хлопчыка Моці, які мяўкае з-за плоту на суседзкую дзяўчынку. Усё далейшае — далёка не адлюстраваньне афіцыйнае біяграфіі Марка Шагала, а хутчэй лірычныя замалёўкі па матывах аўтабіяграфічнае кнігі мастака "Маё жыцьцё". Пэрсанажы — сваякі і знаёмцы мастака, маляваныя штрыхамі, зьяўляюцца ў зразумелым ім адным кантэксьце і нечакана зьнікаюць, вандруюць па гарадах, дахах і нават з гэтага сьвету ў той. Разам зь людзьмі паўнапраўнымі героямі п'есы зьяўляюцца карціны Шагала і макет Віцебску. Аздобленыя нарысы вершамі славутага віцебляніна ў перакладзе Барадуліна.

Другая п'еса не такая знакамітая, але затое таксама пра славутасьцяў (адзін Апалінэр чаго варты!). Называецца яна "Мадам Баншанс". Твор пра талент і ягоную адвечную спадарожніцу — Мадам Адзіноту, якая ідзе побач замест той іншай мадам, якая ў назьве. Багемны калярыт парыскіх бараў. Апалінэр, які п'е віно і разважае пра свае беларускія карані. Абыякавасьць спадарыні Ўдачы да ўсіх без выключэньня. Зноў-такі вершы, гэтым разам — Бадлера і Апалінэра. Саната францускіх вуліц на некалькі галасоў у мінорным ладзе. Дарэчы, якраз цяпер "Мадам Баншанс" ідзе ў Віцебску (рэжысэр Віталь Баркоўскі).

**Вольга Гурло**

# Паэзія гарадзкой зімы




**Лера Сом. "Там, на небе", вершы. 2000**

"Там, на небе" — новая кніжка вершаў паэткі першае хвалі беларускага рэнэсансу Леры Сом, выдадзеная з дапамогай баранавіцкай арганізацыі "Варута" мізэрным накладам. Не на небе, а ў Полацку жыве паэтка — з сынам ды з мужам, працуе, стаіць у чарзе па сьмятану. Але ў вершах усяго гэтага няма, Лера шчасьліва пазьбягае шкарпэтак і таматаў.

Звар'яцелая птушка ня бачыць неба
І ня чуе зямлі пад покрывам лёду...
На аднойчы і назаўсёды
Ёй ужо нічога ня трэба.
...
Вось такая яна, свабода.

Памятаю развагі Леры пра "жаночую" паэзію, пра "бабскае" ў ёй, пра тое, што, перажыўшы свае "жаночыя" праблемы, адбыўшыся як жанчына, паэтка пачынае гаварыць як чалавек (ва ўкраінскай мове гэтыя азначэньні лепей разгалінаваныя — *жінка, чоловік, людина*). З пэўнай ірoніяй да сябе, зь цікаўнасьцю да "непачуцьцёвага" сьвету, калі зьнікае адмысловa жаночае і застаецца агульнасусьветнае, — праз прызму ўласнага настрою, уласнага імгненьня. Лера Сом не экспэрымэнтуе з радком. Яна ў ім проста жыве.

**Ціна Клыкоўская**

# Новая Мэтрыка




**Metriciana. Дасьледаваньні і матэрыялы Мэтрыкі Вялікага Княства Літоўскага. Том 1. — Менск, Аддзел спэцыяльных гістарычных навук Інстытуту гісторыі НАНБ, 2001.**

Усе аўтары гэтага пэрыёдыку (мяркуецца выдаваць яго раз на год) — супрацоўнікі аддзелу спэцыяльных гістарычных навук акадэмічнага Інстытуту. Гэты аддзел ды цэнтар *Athenaeum* і спарадзілі "Мэтрыцыяну".

Зьмест зборніка багаты. Алесь Груша дасьледуе службовы склад і структуру канцылярыі ВКЛ 1440-х — першай паловы XVI ст. Уладзімер Сьвяжынскі і Алег Дзярновіч, грунтуючыся на Мэтрыцы, дасьледуюць генэалёгію ды маёмасны стан шляхты Ашмянскага павету ў першай палове XVI ст.

Адна з самых цікавых прац "Мэтрыцыяны" — дасьледаваньне Ўладзімера Сьвяжынскага "Праблема ідэнтыфікацыі афіцыйнай мовы ВКЛ". Высновы аўтара катэгарычныя: "Адмаўленьне афіцыйнай мове ВКЛ у статусе мовы асобнага ўсходнеславянскага этнасу допускаецца, як правіла, нефілёлягамі або філёлягамі-неславістамі, якія... ня ў стане вылучыць спэцыфічныя рысы старабеларускай мовы..."

Валеры Мянжынскі публікуе прывілей на Магдэбурскае права, дадзены Жыгімонтам Аўгустам Менску ў 1552 г. Справа, безумоўна, карысная, хоць той прывілей ужо надрукаваны тройчы.

Іншы артыкул Алега Дзярновіча прысьвечаны забытай публікацыі матэрыялаў Мэтрыкі, пра якую мала хто ведае. Яшчэ ў 1877 г. у выданьні "*Писцовые книги Московского государства*" былі апублікаваныя амаль цалкам кнігі № 300 і 304 Мэтрыкі (паводле старой нумарацыі). Яны зьмяшчалі дакумэнты расейскага справаводзтва — вопіс межаў Полацкага ваяводзтва, захопленага падчас Інфлянцкае вайны 1558—1583 г., і вопіс мясцовага землеўладаньня. Калі публікацыю 1877 г. сапраўды можна лічыць прызабытаю (яна прыгадваецца толькі ў "Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі" ў артыкуле "Пісцовыя кнігі"), то публікацыю 1856 г. у пэрыёдыку "*Временник Императорского Московского общества истории и древностей российских*" можна ўважаць цалкам забытаю — яна засталася невядомай нават А.Дзярновічу. Цікава, як у складзе Мэтрыкі ВКЛ апынуліся расейскія афіцыйныя матэрыялы. Існуе думка, што яны сталі ваенным трафэем, калі ліцьвінскія войскі ў 1579 г. вызвалялі Полацак. Маглі ліцьвіны аваладаць імі і ў 1612 г., калі на маскоўскі трон пасадзілі каралевіча Ўладзіслава Жыгімонтавіча.

Яшчэ ў "Мэтрыцыяне" зьмешчаная бібліяграфія сучасных літоўскіх працаў пра Мэтрыку ВКЛ, складзеная Артурасам Дубонісам.

Нарэшце, у "Мэтрыцыяне" ёсьць тры рэцэнзіі на публікацыі частак Мэтрык ВКЛ і Валыні. На жаль, іх аўтары не палічылі патрэбным сказаць хоць што-небудзь крытычнае ў адрас сваіх калегаў, таму карысьць ад гэтых публікацый толькі інфармацыйная.

Вастрыня праблемы вяртаньня Мэтрыкі ў Вільню ці Менск апошнім часам згладжаная тым, што туды з Масквы паступілі мікрафільмы ўсіх архіўных кніг Мэтрыкі. Прынамсі, для навуковых дасьледаў шлях значна аблегчаны. Ён стане яшчэ прасьцейшым, калі пасьпяхова будзе прасоўвацца праект стварэньня электроннага архіву Мэтрыкі. Тады застануцца ўжо этычныя і палітычныя праблемы сёньняшняй прысутнасьці Мэтрыкі ў Маскве. Гэтых праблемаў аўтары і рэдактары "Мэтрыцыяны" пакуль вырашылі не чапаць.

**Валеры Пазьнякоў**

# Сьмерць не абавязкова канец




**Сяргей Ёрш. Усевалад Родзька: правадыр беларускіх нацыяналістаў. — Менск: Голас краю, 2001. — 36 с. Дамовіцца пра набыцьцё можна ў рэдакцыі.**

Брашура прысьвечаная асобе правадыра Беларускай Незалежніцкай Партыі, маёра Беларускай Краёвай Абароны й кіраўніка Беларускай Вайсковай Арганізацыі — так гучаць першыя радкі кнігі, зьмешчаныя перад уласна тэкстам ад імя выдавецтва. Пералік пасадаў і роляў мусіць зрабіць відавочнай значнасьць асобы, пра якую пойдзе гаворка надалей, а разьмешчаны побач партрэт хлопца з занадта сур'ёзным і, можа, крыху жорсткім позіркам — праілюстраваць аўтарскае параўнаньне з Кастусём Каліноўскім. Родзька сьмяротны прысуд выслухаў таксама ў дваццаць шэсьць. Пра тое, што было да прысуду, якраз і распавядае першая частка "Шлях героя". Біяграфія досыць простая: нарадзіўся, вучыўся на выдатна, сябраваў, трапіў у падафіцэрскую школу, потым у нямецкі палон, пасьля чаго зрабіўся актыўным змагаром за Бацькаўшчыну. Далей у тэксьце факты, лічбы і абрэвіятуры разам з цытатамі з пастановаў, артыкулаў, словаў, пратаколаў. Нарэшце — паведамленьне пра прысуд, невядома дзе і невядома кім выкананы. А потым яскравым прыкладам таго, што сьмерць не абавязкова ёсьць заканчэньнем, — другая частка кнігі "Дадатак". Чытаецца, шчыра кажучы, больш цікава, чым біяграфія. Артыкул Родзькі для віцебскай газэты "Беларуская старонка" распавядае пра тое, як "перадавыя нямецкія часьці ўступілі ў Віцебск", і заклікае рухаць наперад культурнае жыцьцё. Родзькаў сябра дзяцінства й паплечнік Язэп Сажыч узгадвае, як яны разам вучыліся ў школцы і якую мянушку меў тады Ўсевалад. Амаль як урывак з дэтэктыву або шпіёнскага раману — успаміны невядомага дэсантніка спэцбатальёну "Дальвіц".

Зрэшты, пачытаць хаця б адзін раз кніжку варта, калі ёсьць цікавасьць да гісторыі і асобаў, якія яе пісалі сваімі жыцьцямі. Добрая дакумэнтальная чытанка, асабліва для тых, хто любіць патаснае. Кніга цікавая самім фактам свайго зьяўленьня: даўней пра Родзьку казалі зусім іншае. Хоць я сама кнігу Сяргея Ярша — самую танюткую з прачытаных за апошні час — напэўна ня буду перачытваць. Мо таму, што не люблю сухаватых выданьняў дакумэнтальнага характару.

**В.Г.**



## Новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

**Архітэктурная спадчына Беларусі**: Камплект паштовак (17 шт.) / Укл., тэкст, фота Г.Ліхтаровіч; На бел., рус., анг., ням. мовах. – Менск, 2001. – Наклад 8000 ас.

*Цана 3,1 т. р.*

У.Караткевіч. **Каласы пад сярпом тваім**: Раман. – Менск: Мастацкая літаратура, 2001. – 702 с. – Наклад 7000 ас. ISBN 985-02-0528-8

*Каштуе ўсяго 2,1 т.р.*

**Музэй беларускага кнігадрукаваньня**: Камплект паштовак (21 шт.) / Маст. А.Пятроў, В.Рагалевіч; Тэкст Г.Ладзісава; На бел., ням. і анг. мовах. – Менск: Беларусь, 2001. – Наклад 3000 ас.

*Цана 2,3 т.р.*

**Полацак на паштоўках пачатку XX ст.**: Камплект паштовак (13 шт.) / Маст. В.Рагалевіч, А.Пятроў; Тэкст Ю.Цісьленка; На бел., анг. і ням. мовах. – Менск: Беларусь, 2001. – Наклад 3000 ас.

*Каштуе 1,1 т. р.*

У Слонімскай друкарні пабачыў сьвет буклет **"Слонім на старых паштоўках"**. Выпуск старых паштовак Слоніму прымеркаваны да 750-годзьдзя з часу першае згадкі пра гэты горад у летапісах. Буклет складаецца з 24 фатаздымкаў канца XIX – пачатку XX ст., зробленых мясцовымі фатографамі Б.Вайнштэйнам і Г.Браўнам. Некаторыя здымкі раней нідзе не публікаваліся. Напрыклад, Рыбны кірмаш на Школьнай вуліцы ў 1916 г., пажар у Слоніме ў 1918 г. ды іншыя.

М.Трухан. **Чаканьні**: Зборнік інсцэніровак па мастацкіх творах: Дапаможнік для настаўнікаў, кіраўнікоў тэатральных калектываў / Укл. С.Русак. – Менск: Беларуская навука, 2001. – 300 с. – Наклад 3050 ас. ISBN 985-08-0463-7

*У кнізе зьмешчаныя інсцэнаваньні твораў Аляхновіча, Янкі Купалы, Мележа, Караткевіча, Шэксьпіра, Гогаля ды інш. Аўтар зборніка Мікола Трухан, мастацкі кіраўнік тэатру-студыі "Дзе-Я?", раптоўна памёр 20 сакавіка 1999 г. у часе фэстывалю "Маладэчанская сакавіца".*

**Восстание и война 1794 г. в Литовской провинции** (по документам архивов Москвы и Минска) / Сост., ред. и авт. предисл. Е.Анищенко. – Менск: Моладзевае навуковае таварыства, 2001. – 210 с. – Наклад 1000 ас. ISBN 985-6609-38-0

*Чытач мае магчымасьць пазнаёміцца зь меркаваньнем расейскае эліты пра Касьцюшкава паўстаньне. У зборніку — 168 дакумэнтаў. Каштуе 2,6 т. р.*

**Падрыхтаваў Віктар Мухін**

# кнігі.com

**www.knihi.com**

*Беларуская палічка ў Інтэрнэце:*

Абнаўленьні за апошнія тыдні

*Новыя тэксты:*

**Зянон Пазьняк, Яўген Шмыгалёў. "Курапаты"**
**Васіль Быкаў. "Сьцяна"**
**Расейска-беларускі слоўнік (каля 10 тыс. словаў)**
**Уладзімер Случанскі. "Драбы"**
**Сяржук Сокалаў-Воюш. "Трасуржык"**
**Паўлюк Багрым. "Зайграй, зайграй, хлопча малы..."**
**Андрэй Хадановіч. "Землякі, альбо Беларускія лімэрыкі", "Прамова пра Міцкевіча", "З чаго пачынаецца Жодзіна?"**
**Валеры Касмылёў. "Двубой (Да гісторыі дуэляў у Беларусі)"**
**Сяргей Ёрш. "Усевалад Родзька. Правадыр беларускіх нацыяналістаў"**
**"Беларускі нацыяналізм", даведнік**
**Вітаўт Чаропка. "Аршанскі харунжы (Самюэль Кміціч)"**
**Пётра Манькоўскі. "Ці быў атруты Адам Міцкевіч?"**
**Маленькі беларуска-расейскі слоўнік кулінарных тэрмінаў**
**Ібрагім Канапацкі. "Татары ў Беларусі. Іх рэлігія"**
**Татарская кухня**
**Аляксей Талстой. "Залаты ключык, або Прыгоды Бураціны"**
**Гаўрыіл Траяпольскі. "Белы Бім Чорнае вуха"**
**Андрэ Маруа. "Лёс", "Фіялкі ў сераду", "Пакараньне золатам" і іншыя навэлі**
**Франсуа Марыяк, вершы**
**Мартын Вальзэр. "Аўтапартрэт у жанры дэтэктыву"**
**Эдвард Лір. "Кніга бязглузду"**
**Зыгфрыд Ленц. "Прыхільнік ураду"**
**Малы канспіратар**
**Янка Маўр. "ТВТ" (у перакладзе на рас.)**
**Уладзімер Караткевіч. "Цыганскі кароль", "Сівая легенда", "Зброя" (у перакладзе на рас.)**
**Мілан Кундэра. "Кніга Сьмеху й Забыцьця" (урыўкі)**
**"Я нарадзіўся тут" (тэксты песень)**

*Новыя старонкі:*

**Віртуальны букініст Яна Цітовіча. Пераклады Васіля Сёмухі. Берасьцейская брама. Газэта "Народная воля". Газэта "*new* Будзьма!" "Голас Камбатанта" — газэта вэтэранаў Беларускага Вызвольнага Руху. Чарнобыльскі партал. Беларуская мова ў *Internet*. Іканапіс Беларусі XV—XVIII ст. Сайт беларускай моладзі. Беларуска-расейскі і расейска-беларускі слоўнікі асобнай старонкаю. Вершы Анатоля Балуценкі. Лёс паганства. www.vilnia.com — Беларускі інфармацыйны цэнтар. Пэрсанальная старонка Сярожкі.**

# Уладзімер Бярбераў: "...Была выдатная вуліца, у форме лацінскай літары S"



**Палюбіць Менск вачыма — амаль немагчыма... Палюбіць так, як Вільню, Парыж, Пецярбург ці яшчэ які горад, на вуліцах якога можна ўявіць сябе жыхаром іншай гістарычнай эпохі. Таму і заказацца ў Менск зь першага позірку не выпадае. Можна толькі паступова адкрываць для сябе іншы горад. То за якім савецкім фасадам прагляне старасьвецкі двухпавярховік, то раптам у дварах адкрыюцца рэшткі колішняй вуліцы.**

**32 гады таму Менск адзначаў свой дзевяцісотгадовы юбілей. Менавіта тады ўлады прынялі рашэньне пра поўны знос самай старажытнай вуліцы, якую не закранула нават вайна, самай легендарнай менскай вуліцы, ад назвы якой і пайшло летазьлічэньне сёньняшняй беларускай сталіцы. Калі ўдарылі першыя чыгунныя бабы, на месцы зносу штодня стаў зьяўляцца адзін менскі школьнік. Ён нібы прадчуваў, што творыцца нешта непапраўнае. Але зрабіць нічога ня мог. Ён нават ня меў фотаапарату. Спадзяваўся адно на сваю дзіцячую памяць. Яго праганялі бульдозэрышчыкі, вуліца ператваралася ў руіны, а ён кожны дзень пасьля ўрокаў сьпяшаўся на Нямігу, каб запомніць яе. Сёньня імя гэтага хлопчыка ў Беларусі вядомае. Гэта Ўладзімер Бярбераў, кіраўнік фольк-гурту "Ліцьвіны".**



**Уладзімер Бярбераў:**

— Няміга была выдатная вуліца, у форме лацінскай *S*, тыповая барочная. Было на ёй вельмі шмат маленькіх двароў, і ўсе нейкай незвычайнай формы. Цяпер, калі паглядзець за крамай "Панасонік", стаіць мур. Гэта цэнтральны мур дому, які я цудоўна памятаю. За ім — другая палова дому, яна й цяпер стаіць, а з гэтага боку зьнесьлі. Відаць, што гэты дом быў убудаваны ў гарадзкі вал, ад якога сёньня не засталося нічога. Зьлева ад дому ёсьць пагорак. Дык вось, калі на гэты пагорак узьлезьці, тады й відаць, што гэта малюсенькі фрагмэнт валу. Тады на гэты пагорак вяла лесьвіца. Драўляная лесьвіца ішла зьлева ад дому. Усё гэта было далёка ў дварах. Калі была Няміга, трэ было адзін двор прайсьці, у другі перайсьці й апынуцца перад гэтым домам, лявей за які — лесьвіца. Па ёй падняцца. Далей чалавек апынаўся на драўляным памосьце, які быў над дваром ужо па вуліцы Рэвалюцыйнай. Памост таксама мацаваўся ў мурох дамоў. На ўзроўні трэцяга паверху. Чалавек памостам праходзіў крышку над дваром (яшчэ з памосту можна было паглядзець на дахі аднапавярховак) і спускаўся па драўлянай жа лесьвіцы ў двор — вузенькі, шырынёй з грузавік. Там была ўваходная брама. Здаецца, каб не было высакавата, можна было б не ісьці праз браму, а з памосту скочыць у гэты дворык. Увесь ён быў зарослы бур'яном. Аднак самае цікавае — арка. Усё зьверху замкнута, завершана, як трэба. Выразна. Маўляў, калі цябе туды ня клічуць, дык і не ўваходзь.

Прахаднымі былі абсалютна ўсе двары, але большасьць двароў былі замкнёныя. Іх можна было зачыніць зь дзьвюх вуліц адначасова. Было шмат двароў і наглуха замкнёных. Калі вароты ў арцы дому зачыненыя, трапіць туды абсалютна немагчыма. Пад'езды былі ўсе ад двара. У адным двары быў, напрыклад, пад'езд, які меў марморовую лесьвіцу, што проста з двара й пачыналася. Ад парогу і — пайшла на другі паверх. Ніякіх дзьвярэй А нашто дзьверы? Двор жа замыкаецца. Таксама на Нямізе былі і драўляныя дамы. Сярод усёй гэтай досыць цеснай забудовы трапляліся звычайныя драўляныя аднапавярхоўкі, даўжынёй, можа, са дзьве хаты нармальныя.

За Нямігу ішлі дзьве вуліцы. Яны, дарэчы, скрыжоўваліся пад вельмі вострым вуглом і зьліваліся далей у адну. І там, дзе яны зьліваліся, стаяў такі трохкутны дом, двухпавярховы. Толькі востры рог у яго быў зрэзаны — роўна настолькі, каб там зьмясьціліся дзьверы. Гэта быў уваход у пад'езд. Прычым гэты дом меў лоджыі. Драўляныя, праўда, і ўсе яны ўяўлялі сабой адну суцэльную канструкцыю. Адна драўляная канструкцыя пакрывала ўвесь фасад.

Насельнікі Нямігі па-рознаму рэагавалі на мае паходы. Некатарым гэта страшэнна не падабалася: маўляў, можа, я зладзеяў наводжу. Другія лічылі, што я шукаю, што паказаць замежнікам, каб дыскрэдытаваць сваю дзяржаву. Трэцім падавалася, што, маўляў, вось такія цікавяцца, кажуць, што тут помнікі архітэктуры, а мы праз іх каторы год ня можам кватэры атрымаць.

Пачалі зносіць Нямігу разам з чэхаславацкімі падзеямі, у 68-м. Знасілі гэтак: калі ісьці ад Траецкага, дык за Галоўпраектам увесь гэты бок зносіўся найперш. Годзе ў 71-м ужо знасілі правы бок: капітальныя дамы з чырвонай цэглы, такія крэпасьці з каванымі балконамі. Памятаю каваны балкон з драўлянай падлогай, шыкоўна выкаваны... Калі знасілі, было відаць, што гэты дом стаяў тады, калі суседняга яшчэ не было, бо былі закладзеныя дзьверы — такі выразны фігурны дзьвярны праём.

Былі й легенды. Напрыклад, адзін дзядзька сьцьвярджаў, што, калі ён быў малы, мог падваламі прайсьці праз усю Нямігу. Тут, у раёне цяперашняга Дому мадэляў, спусьціцца ў падвал і выйсьці амаль што насупраць Валадаркі.

Было такое ўражаньне, што Менск даўней будаваўся па прынцыпе "месца не павінна пуставаць". Хоць малюсенькі дамок ды ўставіць, калі ёсьць куды. За што можна ўхваліць продкаў — ім не прыходзіла ў галаву, што трэба нешта знесьці, каб новае збудаваць. Зносілі толькі драўляныя хаты ці будынкі, якія не маглі адрамантаваць, а больш капітальныя дамы заставаліся й з бакоў абрасталі дамамі наступнай эпохі.

У 74-м тое, што засталося, а заставалася прыкладна дзьве трэці забудовы на паўночным баку, за адну ноч узарвалі сапёры. Усё адразу. І той трохкутны дом таксама.

**Запісаў Зьміцер Бартосік.**
**Паводле праграмы "Вострая Брама" радыё "Свабода"**



# Цёмнае месца

Адзін з найбольш цёмных знакаў Беларусі мінулага тысячагодзьдзя — Няміга. Бітва на засьнежаным полі ў 1067 годзе — гэта Няміга. Цёмная гісторыя... Адзіная на ўвесь горад праваслаўная царква ў XVIII ст. — парадаксальны факт з глядзішча сёньняшніх стэрэатыпаў пра адвеку праваслаўную Беларусь — гэта таксама Няміга. І таксама цьмяны сюжэт. Пасьля — гразкая вуліца, паўзь якую цячэ рышток зь нечыстотамі. Гартаючы старыя кнігі, міжволі падумаеш, што толькі Шпілеўскі не пагрэбаваў спусьціцца сюды зь Верхняга гораду. Сыракомля, мусіць, так і не наважыўся зрабіць гэта. Як і карэнны мянчук Янка Лучына... Потым — габрэйскае гета ў мінулую вайну, якое для Менску і яго насельнікаў ня стала вызначальным у сучаснай тапаграфіі гораду, як тое адбылося ў іншых эўрапейскіх сталіцах. Гэта таксама Няміга. І таксама гісторыя, схаваная ў цемры часу. "Праславуты" знос гэтай пакручастай вуліцы, зьняты на кінастужку ў канцы 60-х... І нарэшце, здарэньне ў падземным пераходзе — зусім сьвежыя, здаецца, перажываньні і зусім яснае ўсьведамленьне таго, што і гэтай гісторыі наканавана застацца цёмнай назаўсёды.

Чым можа быць выкліканае шкадаваньне да страчанае назаўжды найстарэйшае менскае вуліцы? Ёсьць туга па ўласным маленстве, па тым, што на колішнія цёплыя адчуваньні не адгукаецца гарадзкі ляндшафт, зьменены і перакроены ў пазьнейшыя гады. Што рабіць, калі гэта характар Менску, гораду, які за апошняе стагодзьдзе ня выгадаваў сваіх гараджанаў, а толькі страціў старых і быў заселены мігрантамі зь вёскі. Туга па горадзе маленства — можа быць, першае сьведчаньне нараджэньня ў душы менчукоўства. Колькі яшчэ пройдзе часу, перш чым тое пачуцьцё ня будзе скончацца расчараваньнем. Для гэтага яно мусіць пасяліцца таксама і ў душах тых, хто будуе і разбурае горад, ягоных фактычных, а ня толькі віртуальных гаспадароў.

Яшчэ згаданае шкадаваньне можа быць выкліканае стратаю прыкметаў даўніны, якія робяць горад нібы мудрэйшым і роўным у клюбе старых сталіцаў, вартым пашаны і жыхара, і госьця. Але ўсе страчаныя прыкметы старой Нямігі, якія згадвае Ўладзімер Бярбераў, ёсьць у рэальнасьці і выдатна захаваліся. Вуліцы, якія паўтараюць лацінскую *S*, маленькія двары самых неверагодных формаў, муры і драўляныя галерэі, па якіх пераходзіш на розныя ўзроўні гораду, забудаваныя валы з драўлянымі і мураванымі лесьвіцамі, прастакутныя, фігурныя і проста крывыя выгбы з уваходамі і вокнамі ў іх, дамы драўляныя і каменныя, трохкутныя з пад'ездам у вострым рагу... Усё гэта ў самых розных варыяцыях ёсьць у сёньняшняй Вільні. Гэта ўсё зробленае або тымі самымі, што і на Нямізе, майстрамі, або майстрамі таго самага цэху і плямені. У Вільні, напэўна, ніхто ня будзе гэтага ўсяго зьнішчаць. А гэта значыць, што беларусам, думаючы пра цяперашнюю сталіцу, варта часьцей наведваць сталіцу старажытную.

Нарэшце, трэці і, на маю думку, самы апраўданы матыў шкадаваньня зьнесенае Нямігі. Гэта тое, што зроблена і робіцца на месцы зносу. Ці там паўстала мадэрная эўрапейская вуліца, якая цешыць вока менчука і госьця, ці пануе безладзьдзе і дысгарманічная шэрасьць? Калі першае, дык, бадай, і ў галаву не прыйдзе тужыць па мінулым. Калі ж другое, дык туга будзе толькі мацнейшаю. Пакуль, паўтаруся, яна не паселіцца ў душах людзей, якія на практыцы ствараюць аблічча гораду.

**Сяргей Паўлоўскі**



Фатаздымкі з архіву Дзьмітрыя Мохава

Здымак з боку вул. Камсамольскай. Будынак справа засьціць царкву на Нямізе



# Лёс "Тутэйшых" невядомы

**Пры канцы мінулага тыдня ў Купалаўскім тэатры ізноў адмянілі спэктакль "Тутэйшыя". Апошнім разам менчукі бачылі яго ў лютым. Чарговыя паказы былі прызначаныя на 14 і 15 лістапада.**



УЛАДЗІМЕР КРУК

А.Сідарава і В.Манаеў у «Тутэйшых» Купалаўскага

Афіцыйная прычына забароны — няспраўнасьць дэкарацыяў: знасілася сцэнічнае афармленьне, расхісталіся ніты і шрубы. Магчыма, так яно і ёсьць. "Тутэйшыя" ідуць на сцэне ўжо 11 гадоў.

Аднак артысты баяцца, каб з "Тутэйшымі" ня здарылася тое самае, што з "Князем Вітаўтам", у дэкарацыі якога таксама раптам "сапсаваліся" нейкія ніты, а грошай на аднаўленьне няма. І вельмі сумнеўна, што знойдуцца сродкі на рэстаўрацыю "Тутэйшых".

Спэктакль б'е ўсе рэкорды па забаронах. Першы раз яго забаранілі ў лістападзе 1926 г. — адразу ж пасьля пастаноўкі, і ніхто не рабіў спробаў вярнуць грамадзтву купалаўскую п'есу аж да 1983 г., калі спрабавалі надрукаваць яе ў альманаху "Спадчына". У выніку дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура" М.Дубянецкі, галоўны рэдактар С.Андраюк і загадчык рэдакцыі В.Палтаран атрымалі адміністрацыйныя пакараньні, а набор альманаху быў рассыпаны.

У эпоху перабудовы Валер Масьлюк паставіў "Тутэйшых" у Магілёве. Аднак спэктакль абвясьцілі "нацыяналістычным" і зьнялі з рэпэртуару. Культур-чыноўнікам не спадабаўся гімн і сьцяг БССР у фінале і тое, што гледачы віталі іх стоячы.

У 90-м рэжысэр Мікалай Пінігін паставіў "Тутэйшых" на купалаўскай сцэне. І аж да 1999 г. там рэгулярна ўзносіўся пад самую столь бел-чырвона-белы сьцяг. На пачатку 1999-га спэктакль надоўга зьнік з рэпэртуару. Ужо тады гэта тлумачылася неабходнасьцю абнаўленьня пастаноўкі. Аднак аніякіх істотных перапрацовак тады зроблена не было. 3 чэрвеня 1999 г. "Тутэйшыя" вярнуліся на купалаўскую сцэну. На пачатку 2000 г. спэктакль ізноў зьнік з рэпэртуару: сьмерць аднаго з артыстаў, інфаркт у другога...

Напярэдадні адкрыцьця юбілейнага сэзону 2000/2001 дырэктар тэатру Валеры Раеўскі паабяцаў, што "Тутэйшыя" абавязкова вернуцца на сцэну. 30 кастрычніка 2000 г. спэктакль прайшоў зь вялізным посьпехам. Цяпер ізноў адмянілі. Раеўскі абяцае, што адновяць да ліпеня, да сьвяткаваньня 120-х угодкаў з дня нараджэньня Купалы.

"*Вы что, прикалываетесь, девушка?*" — запытаўся ў мяне вясёлы мужчынскі голас, калі я затэлефанавала ў рэжысэрскую Нацыянальнага тэатру. Гэты чалавек (найначай малады рэжысэр) папросту ня мог уцяміць, чаму гэта я размаўляю па-беларуску. Тое, што такога чалавека ўзялі ў Купалаўскі, — напэўна прыкол. Такім самым стаў бы і Купалаўскі без адной з п'есаў Купалы.

**Юлія Андрэева**

**ВАЛЕРЫ РАЕЎСКІ (нар. 1939)**

**Народны артыст, ляўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафэсар, на працягу амаль 30 год — галоўны рэжысэр Купалаўскага. Ніколі ня быў камуністам.**

**Сярод апошніх працаў Раеўскага — "Князь Вітаўт" і "Чорная панна Нясьвіжа". Нядаўна дырэктар Беларускай опэры Сяргей Картэс запрасіў яго ўзяць удзел у пастаноўцы опэры Уладзімера Солтана "Пані Ядвіга".**

## БЕЛАРУСЬ ПРАЗ 100 ГАДОЎ

# У Бога ўсяго многа

У 2001 г. ў Беларусі адбыліся прэзыдэнцкія выбары, на якіх народ абраў сабе ў кіраўнікі чалавека, якога любіў усім сэрцам і зь якім звязваў усе свае надзеі. Аднак адразу ж пасьля выбараў узровень жыцьця пачаў імкліва падаць, ды так, што спыніць яго новаабраны ўлюбёнец ня здолеў. У роспачы народ задумаўся — дык каму ж верыць, на каго спадзявацца? Неяк успомнілі усё ж, што на Бога забыліся. Упалі тут беларусы на калені, і само неяк выдыхнулася-выгаварылася: "Выслухай нас, Пане". Так і навярнуліся.

Жыць сталі паводле Божых запаветаў, грахоў пазбывацца, памяць продкаў шанаваць ды дзяцей адпаведна выхоўваць.

Няма каму піць гарэлку, засьмечваць вуліцы, красьці, біць шкло ў пад'ездах, рэзаць сядзеньні ў тралейбусах ды платы брыдкімі словамі расьпісваць.

Трохі людзі меней сталі клапаціцца пра багацьце, пра душу ўспомнілі. Перасталі зброю вырабляць, ваяваць таксама. У сьвеце праблема — дзе грошай узяць, каб назапашанай зброі пазбыцца. Беларусам прасьцей — іхныя арсэналы той прэзыдэнт яшчэ ў часы галадухі распрадаў, цяпер гэтай праблемы няма.

Так ішлі гады, зьмяняліся прэзыдэнты. Вось і 2101 год настаў. А што ў ім такога незвычайнага? Жыцьцё як жыцьцё. Ёсьць праца і ёсьць жытло. Ежы хапае. Звычайнай, традыцыйнай, якую яшчэ продкі ў 2001-м спажывалі, толькі экалягічна чыстай. Працягласьць жыцьця павялічылася, бо хвароў сталі меней. Кінулі думаць пра мамонае, задумаліся пра вечнае. Кнігі добрыя чытаюць, у тэатры ходзяць, па сьвеце падарожнічаюць. Пра наркотыкі, клянаваньне, войны, тэрарызм толькі ў гістарычных кніжках чытаюць. Дзівяцца — як людзі з усім гэтым раней жылі? Хіба яны Бога не баяліся?

**Вера Лойка**

# "Наша Ніва" 90 гадоў таму

**Ваўкалата Віленскай губ.** Нашы парафіяне несчысьленна рады, што сюды прыслалі такога ксяндза, ад каторага яны чуюць сваю родную гутарку. Уперад ад паноў нашы грамадзяне чулі ці па-расейску, ці польскую гутарку, а сваёй роднай — ні ад каго. А як мы сталі чуць ад вучоных людзей, дык у нас усё болей і болей расьце вера ў тое, што мусіць і нашая гутарка мае гэткія самыя правы на жыцьцё, як расейская, так і польская або французская. Цяперашні ксёндз Гайшэвіч пры спатканьні з парафіянамі іначай не гаворыць, як па-беларуску.

**3 лістапада 1911 г., №44**

## Конкурс у Адэсе

**У Адэсе прайшоў першы Міжнародны конкурс піяністаў імя Эміля Гілельса, што меўся стаць у адзін шэраг з амбітнымі ўкраінскімі конкурсамі імя Горавіца ды Крайнева.**

Жыцьцё ў Адэсе цяпер цяжкае. Ацяпленьне й гарачая вада ў кастрычніку былі толькі ў дарагіх гатэлях, вуліцы ўначы амаль не асьвятляюцца. Тым ня менш пяць дзясяткаў удзельнікаў з розных краёў прадэманстравалі прыстойны ўзровень выкананьня.

Спаборніцтва было азмрочанае трагічным выпадкам. Падчас выступу свайго вучня проста ў залі ад разрыву сэрца памёр адзін з чальцоў журы, загадчык катэдры фартэпіяна Адэскае кансэрваторыі Аляксандар Бугаеўскі. Публіка тэрмінова пакінула памяшканьне. "Хуткая" прыехала адразу ж, але дапамагчы ня здолела.

Гэты конкурс быў адметны надзвычайнай "мафіёзнасьцю". Ва ўсіх групах да фіналу дабраліся толькі вучні сяброў журы. Беларуская школа была прадстаўленая Васілём Нетукам, Вольгай Сьцяжко, Вольгай Селачнік, Інай Салдаценка і Марыяй Палазковай. У другім туры выступілі толькі Іна й Марыя. Яны мелі гучны посьпех у публікі, але да фіналу не дайшлі.

Як змрочна жартавалі некаторыя ўдзельнікі, наступным разам гэты міжнародны конкурс можа праходзіць у гарадзкі.

**Віталь Стахіевіч**

## "Хавайся ў бульбу!"

**З нагоды выхаду новага альбому "Крама" на мінулым тыдні сабрала прэс-канфэрэнцыю і дала невялікі канцэрт для журналістаў.**

У альбом "Хавайся ў бульбу!", які выдае БМА сумесна з *Bulba records*, увойдзе 10 новых песьняў, а таксама 2 перапрацоўкі даўнейшых песьняў — "Гэй, там, налівай" і "Сабака". Таксама ў альбом плянуецца ўключыць кавэр-вэрсію песьні "Бяжы, хлопец" у выкананьні маладога гурту *Long Play*. Песьня "Дом наш — Беларусь", якую Варашкевіч часта сьпяваў на "перадвыбарных" канцэртах, у альбом ня ўвойдзе — няма магчымасьці набыць правы на выкарыстаньне песьні *The Beatles "Come Together"*, зь якой "крамары" ўзялі музыку.

**Андрусь Белавокі**

## Будзе новая "Нацыяналка"

**У красавіку 2003 г. у Менску на скрыжаваньні вуліцы Філімонава й праспэкту Скарыны пачнуць узводзіць новы будынак Нацыянальнай бібліятэкі.** Спраектаваны ён быў у майстэрні Міхаіла Вінаградава. Сярод рэалізаваных праектаў гэтае майстэрні — кінатэатар "Масква" ў Менску, новы чыгуначны вакзал і недабудаваны й напаўразвалены ўжо Акадэмгарадок.

**Б.Т.**

# Першы сьнег

Працяг са старонкі 1.

Гэты эфэкт выклікаецца выкідамі ў атмасфэру вуглякіслага газу, а таксама мэтану, фрэону ды іншых газаў. Парніковы эфэкт нарадзіў новыя буры, ураганы, засухі і іншыя стыхійныя бедзтвы. Выкліканыя пацяпленьнем залевы пацягнулі за сабой паводкі ў Заходняй Эўропе, Паўднёва-Ўсходняй Азіі й Калюмбіі.

Было б несправядліва, аднак, усё сьпісваць на адно толькі падгараваньне чалавекам неба. Справа ў тым, што сьнег — найлепшы пылазборнік. Ён убірае ў сябе безьліч часьцінак пылу (у тым ліку радыеактыўнага), ачышчаючы тым самым забруджаныя тэрыторыі. Большасьць сьнегу выпадае ў Паўночным паўшар'і, менавіта там, дзе прамысловыя адкіды й пыл — непазьбежныя спадарожнікі калясальнае вытворчасьці. У краінах Эўропы й Паўночнай Амэрыкі са сьнегам на дарогах змагаюцца рознымі хімічнымі сродкамі. Толькі ў лютым 2000 г. у Менску на сьнег і лёд было высыпана 2,5 тыс. кубамэтраў пескасолевай сумесі й больш як 50 тонаў солі. Можаце сабе ўявіць, куды гэта ўсё ўрэшце падзелася? Так, часткова ў беларускія жрэкі, а часткова зьляцела ў Арктыку й на далёкія горы. Памножце гэта ўсё на сытуацыю па ўсёй Беларусі, па Эўропе, па Паўночным паўшар'і. Наступствы будуць. І, выглядае, ня добрыя.

Сусьветная мэтэаралягічная арганізацыя, што дзейнічае ў рамках ААН, паведаміла яшчэ пазалетась, што кліматычная сытуацыя застанецца цалкам непрадказальнай да канца 2001 — пачатку 2002 г.

**S.H.**



АНАТОЛЬ КЛЕШЧУК



## Дзе варта быць

### У садках

**Аматары садавіны і жывой прыгажосьці няхай наведаюць сады ды лецішчы.** Калі вы яшчэ гэтага не зрабілі, назьбірайце яловых ці ялоцовых лапак і абвяжыце шчэпы ад зайцоў, а таксама накрыйце кветкі і вінаград на зіму. Ужо ж хутка маразы і сьнег.

### Японцы ў Горадні

**З 20 па 24 лістапада ў гарадзенскім кінатэатры "Кастрычнік" пройдзе тыдзень японскага кіно.** Сьледам за менчукамі гарадзенцы пабачаць мастацкія стужкі другой паловы 90-х "Асацкая гісторыя", "Вугор" (Гран-пры Канскага фэстывалю, 1997), "Званок" (Гран-пры МКФ фантастычнага кіно ў Брусэлі, 1999), "Такійская калыханка" (прыз Манрэальскага кінафэстывалю 97-га за найлепшую рэжысуру). Пачатак фільмаў а 19-й. У суботу а 14-й - дзіцячы сэанс: урок арыгамі (японскага мастацтва складаньня фігурак з паперы) і паказ мультфільму "Сьмелы сонечны прынц".

### Сустрэча з Хадановічам

**20 лістапада, як заўсёды па аўторках, у Беларускім калегіюме публічная лекцыя.** Гэтым разам адбудзецца спатканьне з паэтам, аўтарам "НН" Андрэем Хадановічам. У Калегіюме Хадановіч гляне крытычным вокам на сучасную беларускую паэзію. Лекцыю праілюструюць вершы маладых літаратараў: Міхася Баярына, Віктара Жыбуля, Вальжыны Морт ды інш. Акрамя таго, наведнікі атрымаюць магчымасьць пачуць найноўшыя вершы самога Хадановіча. Адбудзецца лекцыя ў Купалаўскай бібліятэцы (вул.Харужай, 16). Пачатак у 18.30.

### Палякі ў Акадэміі мастацтваў

**21 лістапада а 19-й у малой залі вучэбнага тэатру Беларускай акадэміі мастацтваў пакажуць фільм Ежы Каваляровіча "Цягнік".** Гэты чорна-белы псыхалягічны эцюд пра ўнутраную адзіноту кожнага чалавека быў прызнаны найлепшым фільмам 1959 г. на фэстывалі "Залатая качка". Стужка будзе дэманстравацца па-польску.

А ў наступны панядзелак, 26-га, ахвотныя змогуць пабачыць вядомага польскага актора Анджэя Жарнэцкага і задаць яму свае пытаньні. У свой час ён здымаўся ў шматлікіх стужках Кшыштафа Занусі, цяпер выкладае ў тэатральнай школе ў Лодзі. Плянавалася, што Жарнэцкі прачытае лекцыю пра традыцыю і гісторыю польскіх пастановак "Дзядоў", паводле паэмы Міцкевіча, а потым пакажуць адзін з варыянтаў спэктаклю. Аднак "Дзяды" замянілі на "Структуру крышталю" Занусі, а актор будзе расказваць пра сваю творчасьць. Пачатак а 18-й.

### "Павадыр" Яфрэмава

**24 і 25 лістапада — апошнія восеньскія выходныя. Адзначыць гэтую падзею можна па-рознаму.** Аматары культурнага адпачынку могуць схадзіць у суботу ў менскі кінатэатр "Кастрычнік". Там у праграме кінафэстывалю "Лістапад" пакажуць адзіны конкурсны беларускі фільм - "Павадыр" Аляксандра Яфрэмава. У ім здымаюцца толькі беларускія маладыя акторы (Пятро Юрчанкоў-малодшы, Валер'я Арланава, Анатоль Кот), у якасьці саўндтрэку падабраная толькі беларуская музыка, да таго ж гэта першы беларускі фільм у сістэме *DOLBY*.

### Беларускі мэтал

**Фанаты цяжкой музыкі, апранайце касухі і рушце ў "Рэактар".** У чацьвер (22 лістапада) а 18-й тут адбудзецца канцэрт-прэзэнтацыя суперзборкі беларускіх гуртоў і выканаўцаў, што граюць гэві-мэтал. Выступаюць "Дзіда", "Твар", "Капішча", "Зьніч", *Aqua morta*, *Deadmarsh*, *Nekromant* і іншыя. Будзе і гомельскі гурт *God's Tower*, які напярэдадні абвясьціў, што распадаецца. Варта паглядзець і на музыкаў з *Vicious Crusade*: кажуць, штосьці ў іх ёсьць такое, чым яны вельмі падабаюцца дзяўчатам. Цікава, ці будзе іхны вакаліст такі ж прывабны ў міліцэйскай форме (ён паступае ў Акадэмію міліцыі)? З Галяндыі прыедзе гурт *Third Stone*, найбольш вядомы "мэталёвымі" перапрацоўкамі папсовых шлягераў кшталту Брытні Сьпірс. Квіткі каштуюць 5 і 7 тысячаў (кожнаму, хто набудзе, - каляровы плякат гурту "Зьніч" у падарунак). А на наступны дзень галяндцы выпраўляюцца ў тур па Беларусі. 23 лістапада яны выступяць у Гомлі ў клюбе "Адрэналін" (пачатак а 19-й); 24-га - у Воршы ў кінатэатры "Перамога" разам зь мясцовым "Пітэрам Пэнам" (пачатак у 16.30, квіткі каштуюць 2000—3000); 25-га - у Віцебску ў клюбе "Сава" разам са "Зьнічом" і мясцовым *Goldprick* (а 19-й, уваход 3000-4000).

**В.Г., Дзяніс Носаў**

Адам Глёбус

# ПАРТРЭТ ЗЬ СЯБРАМ, падобным да Ван Гога

*апавяданьне*




АЛЯКСЕЙ ЧАРНЯЕЎ

Неістотна, зьдзейсьніў ты злачынства ці не, галоўнае — цябе абвінавацілі ў злачынстве. Напісалі і надрукавалі пра ганебны ўчынак чорнымі літарамі на бялюткай паперы. І ня Ваня, і ня Янка з краіны Мухаморыі тое крэмзалі, а янкі зь Нью-Ёрку на старонцы тамтэйшай “Таймз”. А дробная свалата падхапіла навіну, і па ўсім сьвеце пакаціўся брудны лямант, як кола купальскае з гары. І ты кругом вінаваты, хоць сам ведаеш пра сваю невінаватасьць. Пачынаеш кідацца, мітусіцца, выйсьце шукаць...

І дзе яно, тое выйсьце? Ад сябе не ўцячэш! А чаму б і не ўцячы ад сябе? Я — ня я, і хата не мая. Янкі думаюць, што я — Вова Адамчык, які пад псэўданімам Джулія Хілпатрык выдаў раман “Рэт Батлер”. А калі я перастану быць Адамчыкам і стану Нацэўскім? Стану Міхасём Нацэўскім, буду жыць пад Вільняю ў вёсцы. Разводзіць трусоў. Рабіць дабро ціхамірнае, пастаральнае, жыцьцесьцьвярджальнае. Кіну літаратуру, вярнуся да маляваньня... Не! Не, не і не. Трава, трусы, вёска — не маё.

Успаміны пра амэрыканскі “наезд” наплылі, калі патэлефанаваў мне Нацэўскі і папрасіў напісаць пра ягоны праект *Second Second Hand*. Міхась забаўляецца жывапісам. Выдатны занятак. Бярэ рэпрадукцыі і перамалёўвае на свой капыл. І не абы-каго бярэ, а суцэльную клясыку. Вангогавы сланечнікі схапіў — і перамаляваў, і яшчэ падпісаў *To Vinzent*. О, каб я здагадаўся паставіць на вокладцы кніжкі пра Батлера прозьвішча Мітчэл! Во было б дзіва. Не чатыры мільёны, а чатырнаццаць мільёнаў прадалося б. А Міхась ставіць Вінцэнтавы аўтографы і на сланечніках не спыняецца, а бярэ аўтапартрэты (рэпрадукцыі) і малюе сябе, нібыта ён — Ван Гог. А яшчэ ўгаворвае сябрукоў маляваць яго як Ван Гога. І сябрукі панамалёўвалі процьму Вінцэнтаў-Міхасёў рудабародых. Каб запэўніць гледачоў, што ў Нацэўскага і Ван Гога падобныя твары, Міхась прыкладае свае пашпартныя здымкі да аўтапартрэтаў вялікага галяндца. Але гэтага падаецца замала, і Нацэўскі кладзе туза казырнага — даведку формы № 9 (са здымкам, вядома), дзе пазначана, што ён “заявіў (ла) пра страту пашпарта”. Вось такая мастакоўская гульня. Дзе Вінцэнт? Дзе Міхась? Паспрабуй разьбярыся. І калі ты не мастак і ня мытнік, дык і не разьбярэшся. Памятаеш?.. Усе тайцы-кітайцы на адзін твар. Але гэта няпраўда. Гэта калі з Эўропы пазіраць на кітайцаў-тайцаў, яны вельмі падобныя, а калі зойдзеш у бангкоцкі бардэль і пачнеш выбіраць сабе прастытутку з шэрагу ўсьмешлівых дзяўчатак, дык адразу адчуеш розьніцу. З гэтай можна, а з той пачваркаю і за грошы нічагусенькі не атрымаецца. На яе не паўстане твая жывёльна-прыродная сутнасьць. Але неабавязкова ў Бангкоку ў бардэль зазіраць, каб розьніцу тайскіх твараў убачыць. Можна і да мастакоў завітаць. Іх цэлыя вуліцы. Майстэрні адчыненыя наросхрыст. Ідзі і глядзі, выбірай і купляй. І калі ты думаеш, што ў Тайляндзе вельмі папулярнае тайска-кітайска-кампучыйскае мастацтва, памыляешся. Ван Гог там у пашане. Ён фаварыт. У кожнай майстэрні паруторйку Вінцэнтаў абавязкова знойдзеш. Такіх сьвежых-сьвежых, такіх яркіх-яркіх. А побач вісецьмуць Клімт з Манэ. І альбомы стаяцьмуць. Выбірай любую рэпрадукцыю, і празь дзень атрымаеш карцінку на палатне. І збольшага яна атрымаецца падобная да рэпрадукцыі і зусім не падобная да арыгіналу. Дзе Вена, дзе Бангкок? Дзе Амстэрдам, дзе Пэкін? Вось і плодзіцца рэпра-рэпрадукцыйны Ван Гог. І няма ў гэтым ніякага крыміналу. А шкада. Бо мяне больш цешаць падробкі, чым копіі з імправізацыямі.

Падробка — вось што цікавіць мяне найбольш. Памятаеш у штатаўскім фільме?.. Не, я не пра “Зьнесеных ветрам”, а пра “Як скрасьці мільён”. “Ну хоча японец мець Ван Гога, хай мае. Я дапамагу яму суцешыцца. Прадам яму свайго Ван Гога”, — разважае адзін з галоўных герояў, майстар па падробках. І японец купляе падробку.

А вось у фільме “Мадэрністы” сытуацыя разгортваецца ў процілеглым кірунку. Азіят набывае сапраўдныя палотны Мадыльяні, каб увайсьці ў парыскую эліту. А тусоўка згаворваецца і кажа, што ў азіята — падробкі. Ён рэжа і паліць геніяльныя палотны, і ніхто яго не спыняе.

Ну, кепская ў чалавека здатнасьць адрозьніваць адно ад другога, сапраўднае ад несапраўднага, сваё ад чужога. Ван Гог вар’яцее, Мадыльяні памірае ў жабрацтве, а падробшчыкі... Не! Падробшчыкі, яны ж крымінальнікі, і трапляюць у турмы. Іх ловяць, судзяць, садзяць за краты. Хто? Маршаны! “Бойся, Валодзя, маршанаў!” — казала мне геніяльная перакладчыца вершаў Басё на расейскую мову Вера Маркава. Самая жахлівая зьява ў жыцьці мастацтва — маршаны. Прозьвішча “Маршан” меў галерэйшчык, які запрасіў мужа Маркавай — мастака Леаніда Фейнберга з выставаю ў Парыж. А хто з мастакоў пачатку XX стагодзьдзя не хацеў выставіцца ў Парыжы? Леанід спакаваў палотны і выправіў цягніком. У Парыжы ён апынуўся без карцін. Яны зьніклі ў дарозе. Уся шматгадовая праца прапала. І прычына хавалася ў творах Фейнберга. Ён захапляўся вэнэцыянскім жывапісам часоў позьняга Тыцыяна. Ён вывучаў іх жывапісную тэхніку і ствараў свае карціны на манер старых вэнэцыянцаў. Маршан скраў палотны, каб прадаваць іх як творы невядомага вэнэцыянскага мастака. “Бойся маршанаў!”

І я баяўся маршанаў з ЗША. Маршан — Тэд Тэрнэр, гандляр тэленавінамі, — загадаў янкам апублікаваць абвінавачаньні ў мой адрас. Маўляў, толькі яму і Амэрыцы належыць права на вобразы Батлера і Скарлет, а я скраў вобраз, я злодзей. І шмат хто паверыў. Большасьць паверыла. А Міша Нацэўскі не паверыў. Ён аддаў мне свой пашпарт. Толькі я падобны да Нацэўскага значна менш, чым ён да Ван Гога. Каб зьнішчыць непадабенства, можна было б пераклеіць фатаздымкі ў дакумэнтах. Можа, гадзіны тры я сядзеў за сталом і разглядаў пашпарты. І падчас разгляданьня зразумеў: ня мае права спадар Тэд на вобраз Батлера. Калі мастак хоча намаляваць Хрыста, ён мае поўнае права яго маляваць. Калі Міхась Нацэўскі жадае перамалёўваць сланечнікі Ван Гога, пэндзаль яму ў руку. А вось я ня меў права не расказаць гэтую гісторыю з пашпартам, гісторыю нашага сяброўства.

**З**апісы

## Мы і літаратура

У рэдакцыю “Рабочага” зайшоў, каб завізаваць інтэрвію, ружавашчокі Фядута з “Парфумаю” Зюскінда (кніга была па-расейску; у расейскім варыянце гэты раман называецца *Парфюмер*) і арганайзэрам пад пахай. Ветлівы і ціхамірны, ён разумна і прыгожа гаворыць. Відаць, што чалавек сапраўды шмат чытае і ведае. Гляджу я на гэтага таўсьцячка-інтэлігента, і мне прыгадваецца прачытанае пра Сакрата, які вельмі бедаваў аб тым, што ягоныя адукаваныя суайчыньнікі цудоўна ўсьведамляюць, у чым сутнасьць дабра, але ўсё адно твораць зло.

* * *

За грошы з Фонду прэзыдэнта Анатоль Казлоў выдаў кнігу аповесьцяў “Незламаная сьвечка”. Распачынае яе твор “Дзеці ночы” пра беларускіх сатаністаў. Аповесьць атрымалася слабой, схематычнай, з вымучанымі дыялёгамі і фіналам а-ля Галівуд. Ну ніяк не даюцца некаторым нашым празаікам тэмы сучаснасьці! І самае дрэннае, што “дзеці ночы” Казлова — сьмешныя й бяскрыўдныя, тады як сапраўдныя сатаністы (і яны ёсьць у Беларусі) выклікаюць агіду і страх.

Іншая кніжка Казлова, “...І тады я памёр”, моцна ўразіла мяне. Выдатная мова і стыль, арыгінальная перапрацоўка нашай міталёгіі й фальклёру, тонкае адчуваньне пульсацыі нацыянальных архетыпаў даюць падставы аднесьці яе да ліку найлепшых беларускіх кніг XX ст.

* * *

Раман Ігара Бабкова “Адам Клакоцкі і ягоныя цені”, як слушна адзначыў у сваёй рэцэнзіі былы паэт Леанід Галубовіч (ARCHE-Скарына, № 4, 2001), “з наскоку ня возьмеш”. І далей: “Тым жа, хто жыве незалежна ад уласнай галавы, яго ўвогуле нельга браць у рукі. І для проста цікаўных людзей ён нічога значнага не ўяўляе”. Ад сябе дадам: нарэшце ў беларускай літаратуры зьявіўся празаічны твор *не для ўсіх* — падзея, якая да сёньняшняга дня не атрымала належнай ацэнкі.

Сваім раманам Бабкоў прадэманстраваў, што літаратура — гэта сумесная творчасьць пісьменьніка і чытача. “Адам Клакоцкі...” — інтэлектуальная гульня, галаваломка, што патрабуе адзіноты і засяроджанасьці, напружаньня розуму і палёту фантазіі, уменьня трактаваць сны і сьмеласьці падоўгу глядзець унутр сябе. На гэтым творы не адпачнеш.

* * *

З Адамам Глёбусам я асабіста не знаёмы, аднак мы — землякі, абодва нарадзіліся ў Койданаве, месцы, пра якое Ўладзіслаў Сыракомля калісьці зьедліва сказаў: “Горад гэты стары як сьвет, а лепш сказаць — як Кітай, і, як Кітай, чужы ўсякаму прагрэсу — які быў спрадвеку непрыглядны, такі і цяпер застаўся”. Аб гэтым “непрыглядным”, “старым як сьвет” горадзе і яго жыхарах Глёбус напісаў свае найлепшыя творы. Напісаў з асаблівай пяшчотай і цеплынёй, па-майстэрску і з гумарам намаляваўшы беларускія тыпажы.

Асабіста для мяне Глёбусавы аповесьць і апавяданьні “койданаўскага” цыклю, а таксама верш “На станцыі Койданава” — наркотык, які набліжае гарызонт, тэлепартатар, што імгненна перамяшчае ў родны горад, дзе спыніўся час і ўсё знаёмае да болю, горад, трошкі адрозны ад Глёбусавага ў вонкавых дэталях, але сутнасна адзіны.

Мне сьніцца Койданава, наш койданаўскі сквэр...

* * *

Расейскі часопіс *Иностранная литература* рэгулярна друкуе пераклады твораў пісьменьнікаў з усёй Усходняй Эўропы. Можна нават казаць пра звышцікавасьць *ИЛ* да літаратараў з гэтага рэгіёну. Адно толькі беларускае “прыгожае пісьменства” ў часопісе нічым не прадстаўлена. Ці то для расейцаў мы не “замежнікі”, ці то ў іх проста няма перакладчыкаў зь беларускай і спэцыялістаў, што ведаюць, чым жыве наша сучасная літаратура. Ці то ўсе мы — айчынныя пісьменьнікі, паэты, крытыкі і перакладчыкі — сядзім і чакаем дзядзьку-дабрадзея, які возьме нас за руку і павядзе ў царства сусьветнай літаратуры.

Крыўдна.

**Павал Абрамовіч**

**К**азкі жыцьця

## Крывая лінія, простая лінія

### II

Геамэтрыя прывучае нас абстрактна мысьліць — спрошчваць канкрэтныя аб’екты да вытанчаных абстрактных мадэляў: квадрат, трохкутнік, кола... Альбо — простая лінія, крывая...

Крывыя лініі ў гарадзкой архітэктуры рэдкія. Старадаўнія, мяккія, жаночыя і таму мной любімыя. Ужо прайшло гадоў дваццаць, як я пасялілася ў пяціпавярховіку паблізу Камароўкі, і, падводзячы гасьцей да акна, я расказваю ўсім пра сваю, пэўна, жаночую слабасьць да круглага і няроўнага. (Чамусьці і будынкі будучыні мастакі малююць скругленымі й эліпсоіднымі, нават падобнымі да вясёлкі.)

На вуліцы Харужай у Менску стаіць на квадратным фундамэнце Дом мэблі. Нібыта куб, які ад цяжару груваcткіх мэблевых гарнітураў усярэдзіне напалову праваліўся пад зямлю.

А побач, гэтаксама на квадратным фундамэнце, выгінае ў неба круглую сьпіну будынак крытага Камароўскага рынку. Калісьці гэтая сьпіна-паўсфэра была чорнаю, і здаля здавалася, што гэта вялікі чорны кіт усьміхаецца прыязна людзям, паказваючы празрыстыя зубы-вокны з-пад навіслых зьверху, як вусны, брылёў. Цяпер сьпіна ў таго “кіта” стала зялёнаю — як парослая травою сьпіна казачнай рыбы-кіта з цэлай цывілізацыяй на карку.



Гэтая дзіўная будыніна, незвычайная для эўрапейскага гораду, бо пабудаваная з дапамогаю ня звыклых простых, а крывых, скругленых лініяў, днём заўсёды аточаная шумным морам людзей. Яны прыяжджаюць сюды з усяго гораду! Па садавіну-гародніну, танныя харчовыя тавары, гаспадарчыя дробязі...

Як праблема квадратуры кругу прыцягальная для вучоных розумаў, Камароўка сталася гэткім самым магнітам для месьцічаў, жыхароў прыгараду і іншых. У тым ліку — гандляроў рознай нацыянальнасьці (гандаль — зьява касмапалітычная). І сталічных уладаў...

Крывая лінія, заяўленая як архітэктурная тэма ці код, патрабавала прасторы для амплітуды і рытмічных паўтораў. Твар раёну паступова цалкам зьмяніўся.

**Людка Сільнова**

**У**дакладненьне

Фатаздымкі Ружанаў з архіваў Ю.Малышэўскага, А.Пракапенкі і У.Ратнея, апублікаваныя ў мінулым нумары “НН”, падрыхтаваў да публікацыі Ўладзімер Ратней.

**Н**авіны культуры

## Год Grando Aducaro

**Наступны год *UNESCO* абвясьціў годам слыннага вучонага Ігната Дамейкі.** Налета споўніцца 200 год з дня нараджэньня гэтага ўраджэнца в.Мядзьвядкі (сёньняшні Карэліцкі раён). Ён скончыў матэматычны факультэт Віленскага ўнівэрсытэту (1822), браў удзел у антырасейскім паўстаньні 1831 г., унікаючы перасьледу, эміграваў. Скончыў горную школу ў Парыжы і выехаў у Чылі, дзе стаў прафэсарам, а потым рэктарам унівэрсытэту ў Сант’яга. Займаўся геалёгіяй, мінэралёгіяй, этнаграфіяй. У 1884 г., засумаваўшы па роднай Наваградчыне, наведаў бацькоўскія мясьціны. Памёр у 1889 г., на ягоным пахаваньні прамаўляў сам прэзыдэнт Чылі, а на адным з пляцаў Сант’яга стаіць помнік яму.

## Памяці Каханоўскага

**14 лістапада створаны аргкамітэт па ўзнаўленьні Беларускага краязнаўчага таварыства (БКТ), створанага ў 1989 г., але афіцыйна не зарэгістраванага.** Ягоным першым старшынём быў краязнаўца Генадзь Каханоўскі.

## Прагналі “Пагоню”

**У Ваўкавыскім вайскова-гістарычным музэі плянавалася адкрыцьцё выставы гарадзенскага мастака Зьмітра Іваноўскага.** Для выставы былі адабраныя 17 карцінаў, што ілюстравалі сярэднявечную гісторыю Беларусі. Але ж кіраўнікі музэю напалохаліся гербу “Пагоня” на адной з карцінаў і выставу забаранілі.

**Э.Л.**

